ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 46 (2396) 17 лістапада 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 40 рублёў.

УЗАЕМААДНОСІНЫ БЕЛАРУСІ І ААН

## КАБ НАС ВЕДАЎ ШЫРОКІ СВЕТ

**У наступным годзе спаўняецца 50 год Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. З гэтай нагоды прапануем увазе чытачоў інтэрв'ю з намеснікам пастаяннага прадстаўніка ААН на Беларусі Валерыем ТКАЧУКОМ.**

**-- Валерый Валянцінавіч, калі ласка, раскажыце аб ролі, якую Беларусь адыгрывала ў дзейнасці ААН.**

-- Зараз вельмі часта згадваюць пра тое, што Беларусь з'яўляецца адной з краін-заснавальніц Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Але паколькі і Украіна, і Беларусь былі рэспублікамі былога Савецкага Саюза, нягледзячы на тое, што ў склад нацыянальных дэлегацый часта ўваходзілі людзі вядомыя, сапраўдныя асобы, уплыву на працэсы, якія адбываліся ў ААН, яны не аказвалі і ў асноўным выконвалі ролю статыстаў, галасавалі яны часта ў згодзе з дэлегацыяй Савецкага Саюза. Дарэчы, мы ў прадстаўніцтве ўспамінаем словы Кебіча, якія ён сказаў, калі яно адкрывалася. Ён заўважыў тады, што на сесіях Генеральнай Асамблеі ў беларускай дэлегацыі пастаянна ўзнікалі праблемы з шыйнымі пазванкамі, бо згодна з алфавітам яна сядзела перад савецкай дэлегацыяй, і падчас галасавання заўсёды даводзілася аглядвацца, каб бачыць, як прагаласавалі яны. І толькі пасля атрымання незалежнасці і набыцця суверэнітэту для Беларусі ўзнікла неабходнасць стварэння і фарміравання сваёй знешняй палітыкі і выпрацоўкі ўласных падыходаў да вырашэння важных міжнародных праблем.

Успомніце 1991--1992 гады, калі да Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адразу далучыліся 12 новых краін і стварылася цэлая рэгіянальная сетка новых удзельнікаў, якім была патрэбна дапамога ў пераходны перыяд і з якімі трэба было працаваць. Вось тады генеральны сакратар ААН і выступіў з ідэяй стварэння прадстаўніцтваў, якія ажыццяўлялі б каардынацыю дзейнасці ўсіх міжнародных арганізацый сістэмы ААН. І трэба заўважыць, што Беларусь адной з першых паставіла ў ААН пытанне аб адкрыцці ў сябе пастаяннага прадстаўніцтва.

**-- Ці многа ўдалося зрабіць вам за два мінулыя гады!**

— Можна сказаць, зроблена многа, можна сказаць, зроблена мала.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*НЕВЯДОМАЕ ПРА Міхала РУКЕВІЧА*

## ПАБРАЦІМ ДЗЕКАБРЫСТАЎ

ДЗЕКАБРЫСТЫ... Гэта само сумленне, само высакародства, незвычайная самаахвярнасць і мужнасць Расіі. Самыя лепшыя яе сыны, што з адкрытым забралам выйшлі ў віхурыстым снежні 1825 года вырываць сваю радзіму з учэпістых кіпцюроў векавечнага тыранства.

У тым вялікім памкненні да волі не маглі стаяць убаку і ідэйныя пабрацімы дзекабрыстаў -- беларусы-філаматы, падданыя той жа "турмы народаў". Вядома, выступіць разам з рускімі аднадумцамі на рашучы штурм яе заімшэлых муроў яны не маглі хаця б таму, што яшчэ да паўстання іх таварыства было выкрыта царскімі паслугачамі і разагнана.

І ўсё ж тыя, хто ўцалеў пасля першай буры, што рэхам адгукнулася па ўсёй Расіі, не хаваліся ў ціхіх закутках, не збаяліся царскіх пагроз. Пры першай жа нагодзе яны сталі на бок паўстанцаў вялікага Снежня. Сцяг волі высока падняў тады і далучыў да дзекабрысцкіх сцягоў уцалелы ад царскіх рэпрэсій філамат Міхал Рукевіч.

У філамацкую сям'ю Міхал Рукевіч прыйшоў з Беласточчыны, з вёскі Гозьна, якой валодаў яго бацька, сярэдняй рукі шляхціц. Скончыўшы ў Беластоку гімназію, Міхал запісаўся ў Віленскі універсітэт. Але вучыцца яму перашкодзіла вайна 1812 года. Як след яшчэ не апераны, але ўжо ахоплены патрыятычным духам, семнаццацігадовы дзяцюк стаў салдатам "вызваленчай" арміі Напалеона, з імем якога і беларуская шляхта звязвала выратаванне сваёй зямлі ад расійскіх "апекуноў". У шэрагах аднаго з палкоў лёгкай кавалерыі, складзенага з ліцвінаў ды суседзяў-палякаў, бязвусы ўлан пабываў у многіх крывавых бітвах. За адвагу, праяўленую ў адной з іх, яму нават была прысуджана самая высокая ўзнагарода -- Ордэн Ганаровага легіёна. Але потым малады ліцвін трапіў у расійскі палон.

Вярнуўшыся пасля ўдалых і няўдалых баявых паходаў дадому, Міхал Рукевіч намерыўся працягваць вучобу. У 1816 годзе ён зноў паступае ва універсітэт, дзе выбірае прафесію юрыста.

Апаленага ў баях ваяра філаматы з ахвотай прымаюць у сваё таварыства, дзе Міхал Рукевіч адразу праявіў сябе як выдатны арганізатар моладзі, завадатар і ўдзельнік многіх філамацкіх пачынанняў. За гэта вельмі цаніў яго Адам Міцкевіч. 11 лістапада 1819 года ён пісаў Францішку Малеўскаму: "Рукевіча я вельмі хвалю... Шчыры, вельмі здольны". Гэтак жа высока ставілі Кавалерыста, як часам называлі яго сябры, Тамаш Зан ды Ян Чачот, праслаўляючы яго ў сваіх філамацкіх вершах.

Міхал Рукевіч не любіў абстрактнай гаварыльні. Ён быў чалавекам дзеяння, да гэтага ж падбухторваў ён і ўсіх філаматаў, часта выступаючы перад імі з канкрэтнымі прапановамі. Асаблівую ўвагу ён скіроўваў на стварэнне арганізацый моладзі. Дзейсны ўдзел прыняў ён у заснаванні разам з Тамашом Занам Таварыства прамяністых. Гэта ён напісаў і прачытаў на першай іх сходцы сваю нашумелую "Малітву прамяністых", якая выклікала ва універсітэцкага начальства занепакоенасць адкрытым радыкалізмам і якая ўрэшце стала адной з прычын забароны таварыства. Актыўнічаў Рукевіч і ў Саюзе сяброў, адзін час быў нават яго прэзідэнтам.

У 1820 годзе Міхал Рукевіч скончыў вучобу ва універсітэце, атрымаў дыплом кандыдата права і выехаў на сваю Беласточчыну. Нейкі час гаспадарыў у вёсцы Мількаўшчына, якую, відавочна, арандавалі бацькі -- гэта па дарозе паміж Гародняй і Ваўкавыскам. Працуючы на зямлі, Рукевіч, аднак, не парываў повязяў з віленскімі сябрамі, прымаючы самы актыўны ўдзел у філамацкім жыцці. Напрыклад, ён быў адным з ініцыятараў рэарганізацыі таварыства, якое, на яго думку, павінна было стаць дзейсным цэнтрам палітычнага выхавання ўсёй "літоўскай" моладзі.

**(Працяг на 7-й стар.).**

## ...А РОДНЫ КУТ МІЛЕЙШЫ

**...Калючы дрот, вароты са строгімі надпісамі, што папярэджваюць аб радыяцыйнай небяспецы, -- гэта кантрольна-прапускны пункт у зону адсялення. Праз яго мой шлях ляжыць у Тульгавічы -- вялікую вёску ў Хойніцкім раёне, чые трыста двароў раскіданы па абодва бакі рачулкі Віць. Я не быў тут пяць гадоў. У 1989-м прыязджаў сюды, каб расказаць пра лёс тых, хто трэці год пасля Чарнобыля вымушаны быў жыць ва ўмовах наймацнейшай радыяцыі. Прайшло яшчэ два гады, пакуль было прынята дзяржаўнае рашэнне аб абавязковым адсяленні. І тады раз'ехаліся сяльчане, хто куды. А вёска з таго часу зарасла высокай травой, хмызняком.**

**Праўда, не ўсе жыхары Тульгавічаў паехалі з родных мясцін -- трыццаць чалавек не захацелі пакінуць свой дом. Чаго толькі ні рабілі раённыя ўлады! І электрычнасць адключалі, і тэлефон абразалі -- нічога не падзейнічала. Нельга ж сілай вывозіць іх з зоны! Ды і ўсім зразумелая цяга чалавека да роднай зямлі. І падключылі зноў электрычнасць, тэлефон, аўталаўка раз-другі на тыдзень зазірне -- трэба ж жыць людзям.**






**Пры сустрэчы ўсе цяперашнія жыхары Тульгавічаў спрабавалі даказаць мне, што ніякай небяспекі тут няма. Вось і ўраджай выдатны сабралі. Шчодра частавалі гарачай бульбай, салёнымі агуркамі, смажанай рыбай.**

**І ўсё ж за ўсім гэтым наіўным аптымізмам няўхільна маячыць чорны цень Чарнобыля. Немагчыма спакойна глядзець, як гуляе на вуліцы трохгадовы праўнук Саша, які прыехаў да старасты вёскі Тульгавічы Івана Шамянка.**

**Яго ж навошта сюды, дзе лічыльнік дазіметра літаральна зашкальвае!**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: за дротам -- зона; вяртанне...**

**Фота аўтара.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ЗАЯВА У. ГАНЧАРЫКА

## ПРАФСАЮЗЫ ГАТОВЫ ДЗЕЙНІЧАЦЬ

-- З выкананнем праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі рэспублікі з крызісу паўтараецца ўжо знаёмая па дзеяннях ранейшага ўрада сітуацыя: рэалізавана ў агавораны тэрмін толькі тое, што ляжыць на паверхні, -- заявіў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык на прэс-канферэнцыі. -- Так, з 80 мерапрыемстваў, што павінны быць рэалізаваны да 1 лістапада, ажыццёўлены толькі 37. Прычым такія, што забяспечваюцца за кошт кішэняў насельніцтва: свабодныя цэны, падаражанне транспарту і паслуг, плата за жыллё...

Прафсаюзны лідэр асабліва падкрэсліў, што іншыя рашэнні улад, прымаемыя ў мэтах выканання праграмы, супярэчаць дзеючаму заканадаўству, Канстытуцыі Беларусі, нормам міжнароднага права.

На прэс-канферэнцыі было заяўлена, што калі да снежня праграма скарэкціравана не будзе, то прафсаюзы гатовы перайсці да актыўных масавых дзеянняў па абароне працоўных і сацыяльна-эканамічных правоў і інтарэсаў людзей.

*"Ужо два месяцы прайшло з дня прыняцця Праграмы неадкладных мераў па вываду рэспублікі з эканамічнага крызісу, а краіна нават і не набліжаецца да тых асноўных паказчыкаў, якіх мы, згодна з той жа Праграмай, ужо павінны былі дасягнуць.*

*На мой погляд, гэта тлумачыцца абсалютным бяздзеяннем выканаўчай улады. Каманда А. Лукашэнкі недастаткова працаздольная з пункту гледжання праваздзення ў жыццё сваіх ідэй. Гэтыя людзі не накіроўваюць на месцы свае дырэктывы і не кантралююць іх выкананне. Чацвёрты месяц заканчваецца з дня выбрання Прэзідэнта, але ніводнага распараджэння па выкананню намечаных надзвычайных мераў на месцы не накіравана. Ствараецца ўражанне, што Праграма для таго, каб проста памахаць ёю на парламенцкай трыбуне, як махалі калісьці папкамі з так званым кампраматам".*

*Генадзь КАРПЕНКА, старшыня Партыі народнай згоды.*

НЕАФІЦЫЙНА

## ТРЭЦЯЯ СПРОБА ДЗМІТРЫЯ БУЛАХАВА

Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма з добра інфармаваных крыніц, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка мае намер прапанаваць кандыдатуру Дзмітрыя Булахава на пасаду мэра Мінска. Гэта будзе трэцяя спроба ўвайсці ва ўладу аднаго з самых блізкіх Прэзідэнту людзей. Вярхоўны Савет ужо двойчы забалаціраваў Булахава: першы раз, калі тайным галасаваннем выбіраліся члены Канстытуцыйнага суда, другі раз, калі яго кандыдатура была прапанавана Прэзідэнтам на пасаду Старшыні Канстытуцыйнага суда.

Дарэчы, паводле тых жа крыніц, апрача Дзмітрыя Булахава ў рэзерве Прэзідэнта ёсць яшчэ два прэтэндэнты на гэтую высокую пасаду.

ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

## ХВОРАЯ ЗЯМЛЯ

Значнаму забруджванню доўгажывучымі радыенуклідамі ў выніку аварыі на ЧАЭС падвергліся больш як 1,8 мільёна гектараў, або 22 працэнты сельскагаспадарчых угоддзяў Беларусі. Паводле даных Акадэміі аграрных навук, з іх 264 тысячы гектараў поўнасцю выведзены з карыстання ў сувязі з высокай шчыльнасцю забруджвання глебы радыенуклідамі, перавышэннемranічных дазавых нагрузак на насельніцтва і цяжкасцю атрымання прадукцыі з дапушчальнымі ўзроўнямі радыеактыўнага забруджвання. У сувязі з гэтым толькі прамы штогадовы недабор прадукцыі ацэньваецца ў 45 мільёнаў долараў ЗША.

РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## ЗАКЛАДЗЕНА КАПСУЛА

У Мінскім прыходзе ў імя абраза Божае Маці Усіх Засмучаных Радасце адбылися ўрачыстасці з нагоды сьвяткавання дня іконы.

Ужо які год у вайсковай палатцы на скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Глебкі праходзяць богаслужэнні, на якіх веруючыя Фрунзенскага раёна Мінска, дзе пражывае нямала перасяленцаў з рэгіёнаў, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, пастаянна звяртаюцца па заступніцтва да Божае Маці.

У дзень іконы Божае Маці Усіх Засмучаных Радасце адбылася Боская літургія, якую здзейсніў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Пасля богаслужэння да месца ўзвядзення храма накіраваўся хрэсны ход. У фундамент будучай царквы была закладзена памятная капсула, чын закладання якой здзейсніў мітрапаліт Філарэт. Ім жа было асвячона і месца будаўніцтва храма.

КІРМАШ ВАКАНСІЙ



Праблема занятасці сярод насельніцтва Беларусі абвастраецца з кожным днём. Асабліва гэта тычыцца моладзі. Нават заканчэнне вышэйшых навучальных устаноў не гарантуе маладому спецыялісту занятак па абранай прафесіі.

Урад рэспублікі стараецца хоць нейкім чынам вырашыць праблему беспрацоўя. Адным з крокаў да гэтага стаў кірмаш вакансій, які нядаўна прайшоў у Мінску. Тым, хто прыйшоў на яго з надзеяй працаўладкавацца, было прапанавана 11 тысяч розных месцаў: вадзіцеляў, аўтаслесараў, швачак, закройшчыкаў, сакратароў-рэферэнтаў з веданнем беларускай мовы. Сотні юнакоў і дзяўчат зрабілі выбар. Нярэдка на дапамогу ім прыходзілі дарадцы -- вопытныя сацыёлагі і псіхолагі.

НА ЗДЫМКУ: на кірмашы вакансій.

АД БЕЛАРУСАЎ МАЛДОВЫ

## ПАДЗЯКА А. ЛУКАШЭНКУ

На імя Прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі прыйшло пісьмо з беларускай абшчыны ў Малдове. У ім выказана падзяка ўраду Беларусі і яе гандлёваму прадстаўніку ў гэтай краіне Валерыю Поя за пастаянную ўвагу да праблем нашых суайчыннікаў за мяжой.

Пры непасрэдным садзейнічанні гандлёвага прадстаўніцтва, гаворыцца ў пісьме, абшчыне неадназова пералічвалася спонсарская матэрыяльная дапамога для падтрымкі пенсіянераў і малазабеспечаных сем'яў беларусаў. А ў будынку гандлёвага прадстаўніцтва выдзелена памяшканне для абшчыны з тэлефонам і факсам, што значна палепшыла ўмовы яе работы.

АХОВА СЯМ'І ПРЭЗІДЭНТА

## ШКЛОЎСКАЯ МІЛІЦЫЯ ПРОСІЦЬ ПАДМАЦАВАННЯ

Работнікі аддзела ўнутраных спраў Шклоўскага райвыканкома занепакоены аховай сям'і Аляксандра Лукашэнкі. Справа ў тым, што ў прыгараднай вёсцы Рыжкавічы працягвае жыць і працаваць яго жонка Галіна Радзівонаўна. Тут жа ў сярэдняй школе вучыцца і малодшы сын кіраўніка дзяржавы Дзмітрый. Кіраўніцтва абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў звярнулася ў Магілёўскі аблвыканкам з просьбай павялічыць падраздзяленні патрульна-паставой і дарожнай службы ў Шклоўскім раённым аддзяленні ўнутраных спраў на 31 штатную адзінку, каб узмацніць ахову тэрыторыі ўсяго раёна.

ВАНДАЛІЗМ

## НЕ ВЫКЛЮЧАНЫ ПАЛІТЫЧНЫЯ МАТЫВЫ

Акт вандалізму ўчынены на ўсходняй ускраіне Чэрвеня, дзе на месцы расстрэлу ахвяр рэпрэсій быў устаноўлены Крыж Пакутаў.

Нехта сарваў і забраў мемарыяльную дошку з надпісам на трох мовах "Ахвярам бальшавіцкага тэрору", якая мацавалася ля падножжа крыжа.

Як заявіў карэспандэнту агенцтва РІД адзін з кіраўнікоў мясцовай арганізацыі БНФ, не выключаны палітычныя матывы здарэння. Тым больш, што мемарыяльная дошка была выраблена з алюмінію, а значыць, вялікай матэрыяльнай каштоўнасці не мела.

ФЕСТЫВАЛІ

Міжнародны фестываль цырульнікаў "Залатая ружа" прайшоў у Парыжы. Упершыню ў ім удзельнічала зборная каманда Беларусі. Нашы майстры спаборнічалі з масцітымі калегамі з усяго зямнога шара. І хаця беларусам не ўдалося заняць прызавыя месцы і ўвайшлі яны толькі ў першую дваццатку (усяго ўдзельнікаў было каля 90), гэта ўсё ж поспех. Нам прапанавала супрацоўніцтва фірма "Wella". Трэнер з гэтай фірмы будзе рыхтаваць нашых майстроў да выступлення на чэмпіянаце Еўропы, якi адбудзецца 20 лістапада. Не за гарамі яшчэ адзін прэстыжны конкурс -- "Залаты леў".

НА ЗДЫМКУ: дыпламанты "Залатой ружы" з Віцебска Святлана БАГДАНАВА і Таццяна КІСЛІЦЫНА.



## САРВАЛІ ВЫЯВУ "ПАГОНІ"

Напярэдадні Дзядоў у Гродне быў пашкоджаны памятны знак "Пагоня на Грунвальд". Ён устаноўлены ў гонар перамогі войнаў Вялікага Княства Літоўскага і саюзных войскаў над рыцарамі Тэўтонскага ордэна ў 1410 годзе на месцы, з якога Вітаўт Вялікі назіраў за пераправай свайго войска праз Нёман. Са знака была сарвана бронзавая выява "Пагоні", а таксама пашкоджана сама гранітная пліта.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ВЯРХОЎНЫ Савет Рэспублікі Беларусь у яго цяперашнім складзе пратрымаецца да 15 мая 1995 года. Такую дату заканчэння паўнамоцтваў парламента вызначыў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі.

7 ЛІСТАПАДА ў Мінск прыбыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі Кенэт Яловіц. Новы пасол ЗША замяніць на гэтай пасадзе Дэвіда Суорца.

ПА РАШЭННЮ Прэзідэнта А.Лукашэнкі колькасць суддзяў у Беларусі даведзена да 620 асоб. Гэта паскорыць разгляд спраў у судах. На сённяшні дзень на аднаго суддзю прыпадае 45 спраў і матэрыялаў у месяц.

СУПРАЦЬ прыняцця Вярхоўным Саветам Закона аб унясенні зменненняў у Крымінальны і Працэсуальна-працоўны кодэксы выступілі жыхары сталічнага мікрараёна Усход-1. У выпадку прыняцця праекта будуць выпушчаны з месцаў зняволення небяспечныя злачынцы. Паводле статыстыкі, сёння ў Беларусі больш за 1 мільён 100 тысяч чалавек маюць судзімасць.

НА ПРАМЫСЛОВЫХ прадпрыемствах Мінска аб'ём зарплаты ў структуры сабекошту знізіўся з 14 працэнтаў у 1991 годзе да 6 працэнтаў на сённяшні дзень. Нармальна гэтыя прапорцыі павінны складаць не менш 50--60 працэнтаў.

БОЛЬШ 5 мільёнаў чалавек маюць даход, ніжэйшы за пражытачны мінімум. Такім чынам, звыш паловы жыхароў Беларусі апынуліся за рысай беднасці.

У СЁЛЕТНІМ навучальным годзе ў Беларусі налічваецца 3 140 беларускіх школ, на 2 болей, чым у мінулым годзе. 313 132 вучні набываюць веды на сваёй роднай мове.

У ЛЯХАВІЧАХ, што ў Брэсцкай вобласці, зарэгістравана 3 выпадкі захворвання на брушны тыф. Усе хворыя -- жанчыны. Стан іх здароўя, па сведчанні дактароў, здавальняючы. Прычыны захворвання на тыф высвятляюцца.

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# АЛЯКСЕЙЧЫК АЛЯКСАНДР – КАРОЛЬ ПСІХАТЭРАПІІ



Сярод выдатных вучоных-беларусаў за мяжою не апошняе месца займае віленскі наватар псіхіятрыі -- Аляксандр Аляксейчык. Нарадзіўся ён на Серабранцы ў Мінску ў 1940 годзе. Бацька яго -- карэнны мінчанін, вядомы хірург, прафесар медыцынскага інстытута (загадчык кафедры), быў вывезены на Урал, пазней пераехаў у Вільню, дзе працаваў загадчыкам аддзела ў 1-й і 4-й бальніцах. Маці -- Вольга Ільінская, доктар-тэрапеўт -- вільнянка.

Скончыўшы сярэднюю школу ў Новай Вілейцы (1956 год), Аляксандр паступае ў Каўнаскі медыцынскі інстытут (у 1957 годзе пераязджае ў Вільню) і ў 1962 годзе, атрымаўшы дыплом, працуе ва Уцянах лекарам-псіхіятрам. З 1965 года быў ардынатарам пры Віленскім універсітэце. Тут ён арганізаваў першы псіхатэрапеўтычны кабінет пры псіхіятрычнай бальніцы (на месцы былога Інстытута мозга, якім кіраваў прафесар Розэн).

З 1989 года тут месціцца псіхатэрапеўтычнае аддзяленне, у якім плённа працуе Аляксейчык. Ён распрацаваў сваю методыку, сутнасць якой выкладзена ў кнігах на літоўскай і рускай мовах. У 1980 годзе выйшла з друку яго кніга на літоўскай мове "Псіхалогія слабасцяў чалавека", у якой папулярна і дакладна расказваецца пра яго новы эфектыўны метад лячэння псіхічных захворванняў.

Многа прац Аляксандра Аляксейчыка надрукавана ў краёвых і замежных часопісах і кнігах. Яго методыка, як усё новае, сустрэлася (успомнім Эдысана) з энтузіязмам прыхільнікаў і "холадам", нават злосцю кансерватыўных спецыялістаў. Варта пачытаць "Московский психотерапевтический журнал" N 1 за 1993 год, які падкрэслівае, што Ленінград і Вільня былі галоўнымі цэнтрамі псіхатэрапіі, аднак першынство належала Вільні, пры гэтым "А.Е.Алексейчик -- первый среди первых, король групповой психотерапии". Адны яго лічылі "шарлатанам", другія -- геніем і прарокам. Аднак застаецца фактам, што на арганізаваныя Аляксейчыкам семінары з'язджаюцца многія выдатныя спецыялісты замежных краін і хутка павялічваецца колькасць яго паслядоўнікаў. Амаль штогод Аляксейчык удзельнічае ў замежных семінарах і сімпозіумах, на якія запрашаюць яго венгерскія, нямецкія ды іншыя навуковыя ўстановы.

Чаму ж заўдзячвае сваю папулярнасць і славу таленавіты практык і тэарэтык, даследчык і вучоны? У чым заключаецца крэда перакананняў і дзейнасці доктара Аляксейчыка?

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# КАБ НАС ВЕДАЎ ШЫРОКІ СВЕТ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Але ж мы самі ацэньваем сваю работу, як даволі сціплую, бо для ажыццяўлення вялікіх праектаў патрэбны вялікія грошы. На Беларусь жа выдзелена не вельмі вялікая сума, і, як гаспадыня з маленькім бюджэтам вымушана круціцца, каб укласціся ў выдзеленыя ёй грошы, так і мы эканомім, шукаем і прыцягваем інвестараў для ўвасаблення нашых праграм.

**-- Дарэчы, раскажыце больш падрабязна аб гэтых праграмах, якія праекты падпісаны на сённяшні дзень, што робіцца!**

-- Мне хацелася б падрабязна расказаць пра вельмі важны для Беларусі праект, які называецца "Канверсія ваенных гарадкоў у зоны занятасці, прадпрымальніцтва і энергазберажэння". Ажыццяўляцца ён будзе Праграмай развіцця ААН і Міжнароднай арганізацыяй працы і, канешне ж, патрабуе вялікіх сродкаў, якія наўрад ці ўдасца атрымаць ад міжнародных арганізацый. Таму замежныя партнёры робяць экспертную падрыхтоўку, распрацоўваюць метадалогію, прадстаўляюць увесь міжнародны вопыт у гэтай галіне. А ўсё, што тычыцца практычнай рэалізацыі праекта з улікам мясцовых асаблівасцей, -- гэта будзе ажыццяўляць Міністэрства працы пры садзейнічанні шэрагу няўрадавых арганізацый, такіх, як Саюз прадпрымальнікаў рэспублікі. У гэтым годзе я пабываў у Гомельскай вобласці на ваенных базах, з якіх пайшлі, паехалі, паляцелі расійскія ваенныя, і ўбачанае там вельмі ўразіла мяне. Гарадкі з насельніцтвам ад 150 да 500 чалавек, з выдатнай тэхнічнай базай, магазінамі, васьміпавярховымі дамамі, Дамамі культуры, аэрадромамі з узлётна-пасадачнымі палосамі, на якія не сядзе толькі што "Шатл", -- усё гэта пустое, кінутае недзе ў лесе, жанчыны і вольнанаёмныя, якія там засталіся, сядзяць без работы, бо гарадкі адарваны ад інфраструктур, і людзі павінны ездзіць на працу на аўтобусах, для якіх няма бензіну. Калі ўлічыць, што ў Беларусі такіх гарадкоў каля ста, можаце самі ўявіць маштабы гэтай праблемы. Адзіны шлях яе вырашэння -- канверсаваць гэтыя гарадкі, ператварыўшы ў зоны занятасці і зоны вольнага прадпрымальніцтва, даць ім магчымасць самім сябе ўтрымліваць. Я не думаю, што гэтая праблема будзе адразу вырашана, але ж з нечага трэба пачынаць! Ёсць вельмі цікавы праект па развіццю і аптымальнаму выкарыстанню, перадачы метадаў і тэхналогій для аховы здароўя жыхароў рэспублікі Беларусь. Яго ажыццяўляе ПРААН сумесна з сусветнай арганізацыяй аховы здароўя і Акадэмія навук Беларусі разам з Інстытутам цепла- і масаабмену. Гэта вельмі перспектыўны праект, тэхналогіі, якія распрацоўваюцца ў яго рамках, даюць медыцыне новыя магчымасці. Мы працуем таксама над праектам "Шчытападобная залоза" і шэрагам іншых.

**-- Кожная краіна, прадстаўленая ў ААН, мае нейкую сваю галоўную праблему, болевую кропку ці што. Для Беларусі такая кропка -- Чарнобыль. Як складваюцца адносіны па гэтай праблеме паміж нашай дзяржавай і ААН!**

-- Міжнароднае супольніцтва пастаянна крытыкуюць за тое, што яно не дапамагае Беларусі пераадолець чарнобыльскую трагедыю. Але як можна вінаваціць ААН за адсутнасць увагі да гэтай праблемы, калі за дапамогай да яе звярнуліся толькі праз чатыры гады пасля самой аварыі? Да гэтага часу праблема ўжо страціла сваю вастрыню, у свеце з'явіліся новыя гарачыя кропкі -- Кувейт, Іран, Ірак, шмат рэгіянальных канфліктаў. Да таго ж, Чарнобыль не пабачыш, не памацаеш, а вось калі ўключаеш тэлевізар і бачыш эфіопскіх дзяцей, па тварах якіх поўзаюць мухі, -- гэта ўражвае. Мабыць, калі б гэтая аварыя не замоўчвалася з самага пачатку, а на другі ж дзень прагучаў заклік аб дапамозе, усё адбылося б зусім паіншаму. Таму і не трэба зараз некага папракаць за недастатковую ўвагу да Чарнобыля, тым больш, што праводзяцца і чатырохбаковыя сустрэчы, у якіх прымаюць удзел міністры трох зацікаўленых дзяржаў і намеснік генеральнага сакратара ААН Хансен. Гэтыя пытанні ўздымаліся перад генеральным сакратаром ААН Бутрасам Галі, калі ў красавіку ён прыязджаў у Мінск, у Жэневе пастаянна збіраецца каардынацыйны савет, у які ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх міжнародных арганізацый сістэмы ААН, што вядуць нейкія праграмы па Чарнобылю. Робіцца многае, але я не думаю, што ёсць сэнс чакаць выдзялення нейкіх вельмі вялікіх сродкаў.

**-- Становішча, канешне ж, не надта прыемнае, але часам мне здаецца, што з-за Чарнобыля Беларусь хаця б у свеце ведаюць...**

-- Нічога дзіўнага тут няма, бо раней палітыка Беларусі ніколі не была самастойнай да канца, і шматлікія дэлегацыі і місіі, якія зараз наведваюць рэспубліку, адзначаюць, што тут толькі цяпер фарміруецца моцны дыпламатычны корпус і ідзе выпрацоўка ўласнай пазіцыі на міжнароднай арэне. Але акрамя Чарнобыля ва ўзаемаадносінах Беларусі і ААН існуе яшчэ адно складанае пытанне. Справа ў тым, што Арганізацыя Аб'яднаных Нацый не хоча сёння перагледзець шкалу ўзносаў для Беларусі. Калі Савецкі Саюз распаўся, было вызначана, хто і колькі будзе плаціць, і для рэспублікі гэта сума аказалася вялікай, тым больш, што мы -- сярод краін, якія даюць грошы на сілы па падтрыманню міру. З аднаго боку, сума сапраўды вялікая, з другога, -- нельга ствараць прэцэдэнт для адной краіны, адразу ж пачнуцца просьбы ад іншых... Зараз стаіць пытанне аб тым, каб паменшыць шкалу ўзносаў для краін СНД і шэрагу ўсходнееўрапейскіх краін. Акрамя таго, гэтая праблема знаходзіцца ў кампетэнцыі вышэйшых органаў ААН. Будзем спадзявацца, што гэта атрымаецца.

**-- А як выглядае Беларусь сярод іншых краін!**

-- У штогадовым дакуменце ААН "Справаздача па чалавечаму развіццю" Беларусь займае вельмі годнае месца, між іншым, вышэйшае, чым Расія. Дарэчы, зараз у Беларусі распачата праца над першай у рэспубліцы "Нацыянальнай справаздачай па чалавечаму развіццю". Гэта будзе аб'ектыўная, рознабаковая і поўная карціна сацыяльнага і эканамічнага стану краіны. Пасля таго, як яна будзе апублікавана -- спадзяюся, што гэта адбудзецца ў маі наступнага года, -- Беларусь будуць ведаць у свеце не толькі з-за Чарнобыля, бо гэтая справаздача будзе выдадзена на трох мовах -- англійскай, рускай і беларускай, англійскі варыянт, адпаведна, будзе распаўсюджаны па ўсім свеце. Такія справаздачы выходзяць штогод у многіх краінах. Канешне, гэта вельмі дарагая справа, але ўсе выдаткі па распрацоўцы і выданню гэтай справаздачы ўзяла на сябе Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.

**-- Ці задавальняе вас тое, як складваюцца адносіны вашага прадстаўніцтва з беларускім урадам!**

-- Так, задавальняе, бо нам заўсёды ідуць насустрач, усе неабходныя пытанні вырашаюцца ў рабочым парадку, і праблем ніколі не ўзнікае. Мы знаходзім поўнае ўзаемаразуменне з афіцыйнымі структурамі, бо ў рэшце рэшт мы ўсе працуем на адну мэту -- дабрабыт Беларусі, рост яе аўтарытэту ў свеце.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**Угледзьцеся ў гэтыя здымкі. Яны зроблены не ў глухіх забітых вёсках.**

**Вера Афанасьева жыве ў Віцебску. Ёй 83 гады. У час вайны дапамагала партызанам, сярод якіх быў і яе муж. Калі немцы схапілі яго, арыштавалі і жонку. Вера Антонаўна прайшла праз турмы Полацка, Дзвінска, Рыгі, канцлагер Равенсбрук. Чырвоная Армія вызваліла яе ў чэрвені 1945 года. Пасля працавала да лютага 1948 года сястрой-гаспадыняй у адной з воінскіх часцей, толькі ў сакавіку таго ж года вярнулася на радзіму.**

**Вядома, было цяжка. Але -- як усім. І яна, не скардзячыся, нічога для сябе не патрабуючы, працавала ад цямна да цямна. Вось толькі нажыць практычна нічога не змагла. Адна "раскоша" -- чорна-белы тэлевізар ды яшчэ перакошаны дом, у якім страшна жыць: ёсць небяспека, што ён рухне. І адзіная жывая душа побач -- паўгалодная кошка Мурка.**

**Цяпер бабулі цяжка, як ніколі. Са страхам думае пажылая жанчына, як давядзецца зімаваць, няма ж ні дроў, ні газы. Засталіся толькі дакументы, якія пацвярджаюць яе дастойнае жыццё ў маладосці...**

**А Мікалай Вілімовіч усе свае 90 гадоў пражыў у Гнесічах Навагрудскага раёна на беразе Нёмана. У маладосці быў рыбаком. Потым доўгія гады працаваў лесніком. Калі выйшаў на пенсію, капаўся ў сваім агародзе ды лавіў рыбу, каб пракарміцца. Але вось рыбнагляд аб'явіў дзевяностагадовага Мікалая Цімафеевіча браканьерам, забраў сетку і прыгразіў вялікім штрафам. Вядома, каб ты быў хоць малюсенькім начальнікам, то і хлопцы з рыбнагляду да цябе інакш паставіліся б. А каму патрэбны стары Вілімовіч...**

**Сумна, але факт: такіх непатрэбных дзяржаве і грамадскасці людзей становіцца год ад году ўсё болей. Па меры таго, як маладое пакаленне з нарастаючым імпэтам імчыць у рынак, старое з настальгіяй азіраецца назад і ўсё цяжэй уздыхае аб сацыялізме.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА і Эдуарда КАБЯКА.**



## РЫХТУЕМСЯ ДА II МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА БЕЛАРУСІСТАЎ

# ЗРОБЛЕНА НЯМАЛА, ХОЧАЦЦА ЗРАБІЦЬ БОЛЬШ

ТРЫ з паловай гады назад, у маі 1991 года, у Мінску адбыўся ўстаноўчы (першы) кангрэс беларусістаў, у якім прынялі ўдзел вучоныя, пісьменнікі, перакладчыкі з Англіі, Аўстрыі, Балгарыі, Венгрыі, Германіі, Італіі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Таджыкістана, Украіны, Чэхіі, Швейцарыі і Швецыі (Індыя і Японія далучыліся пісьмова). Удзельнікі кангрэса ўтварылі Міжнародную асацыяцыю беларусістаў, выбралі яе кіраўніцтва, прынялі статут. Былі акрэслены асноўныя мэты: садзейнічаць узаемаразуменню народаў, пашыраць беларускую культуру, веды пра Беларусь у свеце, сумесна праводзіць навуковыя форумы, выдаваць адпаведную літаратуру, дапамагаць у кантактах.

Азіраючыся на час, што прайшоў ад кангрэса, я павінен сказаць: зроблена нямала. У адпаведнасці са статутам мы шэсць разоў збіраліся на пасяджэнні камітэта МАБ, правялі некалькі значных міжнародных канферэнцый. Так, у 1992 годзе ў Маладзечне была абмеркавана вельмі актуальная праблема "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў", а ў Венецыі -- "Беларуска-італьянскае культурнае ўзаемадзеянне". Прайшлі два "круглыя сталы", прысвечаныя беларуска-літоўскім адносінам. У 1993 годзе ў Гродне адбыўся "Рым-IV", дзе разглядаліся нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне, а ў Брэсце -- канферэнцыя па беларуска-польскіх стасунках. Сёлета ў Мінску паспяхова прайшлі міжнародныя канферэнцыі "Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі", "Беларуска-амерыканскія грамадска-культурныя ўзаемадачыненні: традыцыі, сучасны стан, перспектывы". МАБ прыняла самы актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні "Рыма-V" (Тракай, Літва), прысвечанага спадчыне Вялікага Княства Літоўскага, канферэнцыі "Нясвіж як агульнаеўрапейская гістарычная і культурная каштоўнасць". Можна было б таксама згадаць супольныя мерапрыемствы ў Лондане і Лілі, Берліне і Варшаве, Любліне і Вільнюсе.

Нягледзячы на глыбокі крызіс, што ахапіў Беларусь, МАБ імкнулася хутка і якасна выдаць матэрыялы канферэнцый. Ужо выйшлі "Беларусіка-I" (кангрэс 1991 года), "Беларусіка-II" (Маладзечна), "Беларусіка-III" (Гродна і Брэст). Здадзены ў выдавецтва "Беларусіка-IV" (беларуска-яўрэйскае ўзаемадзеянне, матэрыялы канферэнцыі пра В. Ластоўскага, якая прайшла летась у Наваполацку) і "Беларусіка-V" (беларуска-амерыканскія ўзаемасувязі, даклады сёлетняй канферэнцыі "Культура беларускага замежжа"). Асобна выдадзены матэрыялы сустрэчы ў Венецыі ("Ад Полацка і Нясвіжа да Падуі і Венецыі"), "круглых сталоў", прысвечаных Вялікаму Княству Літоўскаму (Мінск, Гервяты, 1992). Многа цікавых публікацый на рахунку польскіх (некалькі манаграфій і зборнікаў), чэшскіх (зборнік, прысвечаны Ф. Скарыне), аўстрыйскіх (працы Г. Бідэра пра беларускую мову), швейцарскіх (артыкулы М. Банькоўскі-Цуліг пра Беларусь), расійскіх, украінскіх беларусістаў. У Мінску выйшлі кніжкі сяброў камітэта МАБ В. Кіпеля "Беларусы ў ЗША" і А. Цеханавецкага "Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме". Са знакам асацыяцыі (выява св. Еўфрасінні Полацкай з крыжам) з'явілася некалькі рэпрынтных перавыданняў.

Аднак на шырэйшую выдавецкую дзейнасць у нас не хапіла сродкаў: сяброўскія складкі паступаюць нерэгулярна (у Беларусі замест іх сябры МАБ павінны падпісацца на "Голас Радзімы"), а створаны з нашым удзелам навукова-вытворчы цэнтр "Аднова" асаблівых прыбыткаў пакуль што не дае (лепш наладжваюцца кантакты са Згуртаваннем прадпрымальнікаў Беларусі, з якім падпісана дамова аб супрацоўніцтве).

На сённяшні дзень, калі зыходзіць з запоўненых анкет, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў налічвае звыш пяцісот сяброў. Найбольшыя з нацыянальных асацыяцый па колькасці сяброў -- беларуская (звыш двухсот, узначальвае яе доктар У. Конан) і польская (звыш ста, прэзідэнт прафесар А. Баршчэўскі). Многа карыснага зроблена англійскай (Д. Дынглі), літоўскай (А. Лапінскене) нацыянальнымі, Санкт-Пецярбургскай (М. Нікалаеў) і маскоўскай (Ю. Лабынцаў) рэгіянальнымі асацыяцыямі. У кастрычніку гэтага года арганізацыйна аформілася Венгерская асацыяцыя беларусістаў на чале з дацэнтам Андрашам Золтанам. У яе складзе -- каля 30 сяброў з Будапешта, Сегеда, Дэбрэцэна і іншых гарадоў (дарэчы, ім адпраўлена першая партыя беларускай літаратуры). Такійская суполка беларусістаў на чале з прафесарам Дзюн-Ічы Сато выступіла ў ролі сузаснавальніка Міжнароднага беларуска-японскага фонду імя І. Гашкевіча.

Варта падкрэсліць, што зарубежныя сябры МАБ карыстаюцца ў Беларусі вялікай павагай. Ганаровымі дактарамі Беларускага ўніверсітэта сталі А. Баршчэўскі і А. Цеханавецкі, Гродзенскага ўніверсітэта -- В. Кіпель і Б. Кіт. На пачатку гэтага года была створана Міжнародная акадэмія навук Еўразіі (з сядзібай у Мінску). Прэзідэнтам яе стаў сябра МАБ прафесар Я. Шыраеў (Масква), віцэ-прэзідэнтамі -- вучоны сакратар МАБ прафесар Г. Цыхун (Мінск), прафесар Б. Кіт (Франкфурт-на-Майне). На першай Генеральнай Асамблеі новай акадэміі, якая прайшла ў верасні ў Мінску, яе правадзейнымі членамі і членамі-карэспандэнтамі паводле рэкамендацый МАБ сталі А. Баршчэўскі (Польшча), Д. Дынглі (Англія), В. Кіпель (ЗША), Дзюн-Ічы Сато (Японія), А. Цеханавецкі (Англія) і інш. Разглядаюцца наступныя кандыдатуры.

І ўсё ж, падсумоўваючы вынікі (а гэта трэба зрабіць напярэдадні другога кангрэса беларусістаў), мушу прызнаць, што яны яшчэ даволі сціплыя. Не стварылі мы ўласнай выдавецкай структуры. Не дамагліся, каб нашы калегі за рубяжом рэгулярна атрымоўвалі беларускія кніжныя і перыядычныя выданні (прыемным выключэннем з'яўляецца тут "Голас Радзімы").

Хочацца спадзявацца, што актыўнасць сяброў нашай асацыяцыі ўзрасце ў сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем другога Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Мяркуецца арганізаваць яго 16--18 мая 1995 года ў Мінску (англійскімі калегамі прапаноўвалася альтэрнатыўная дата -- канец жніўня, але яна не знайшла падтрымкі сярод іншых нацыянальных асацыяцый). На пасяджэннях камітэта МАБ 17 чэрвеня і 20 верасня гэтага года была вызначана асноўная тэматыка: "Беларусь паміж Усходам і Захадам: праблемы сацыяэтнічнага, канфесійнага і культурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу". Адзін дзень плануецца адвесці на пасяджэнні "круглых сталоў", прысвечаных узаемадзеянню з непасрэднымі суседзямі Беларусі. У адпаведнасці са статутам, выбарамі дэлегатаў (адзін дэлегат ад 10 сяброў) і вызначэннем прамоўцаў-дакладчыкаў зоймуцца нацыянальныя і рэгіянальныя асацыяцыі. Аднак камітэт МАБ будзе высылаць і індывідуальныя запрашэнні (асабліва туды, дзе беларусісты арганізацыйна не аформіліся).

Кангрэс -- не адзіная справа, якой зоймецца МАБ у наступным годзе. Навукова і арганізацыйна мы будзем таксама падтрымліваць канферэнцыі, якія розныя ўстановы і арганізацыі мяркуюць правесці з удзелам зарубежных сяброў МАБ. Падаю іх у храналагічным парадку. На самым пачатку наступнага (або ў канцы гэтага) года адміністрацыя Невельскага раёна (Расія) запрашае на Міжнародную канферэнцыю, прысвечаную 200-годдзю Яна Баршчэўскага і праблемам культурнага адраджэння маргінальных тэрыторый (адначасова там пройдуць Дні беларускай культуры). 2--3 лютага Беларускі ўніверсітэт культуры мяркуе правесці міжрэгіянальную навукова-метадычную канферэнцыю "Праблемы ўдасканалення гуманітарнай і прафесійнай адукацыі". 3--4 красавіка 1995 года ў Брэсцкім педінстытуце адбудзецца Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Нацыянальная школа: гісторыя, сучаснасць, перспектывы". На красавік плануецца таксама сустрэча "Рым-VI", якая пройдзе ў Рыме і будзе прысвечана пытанню "Цэнтральна-Усходняя Еўропа напярэдадні XXI стагоддзя", і канферэнцыя "Філасофія Адраджэння: нацыянальны і агульначалавечы змест" (Беларускі педагагічны ўніверсітэт). 6--11 жніўня ў Варшаве пройдзе чарговы Сусветны кангрэс, які ладзіцца Міжнароднай Радай па постсавецкіх і ўсходнееўрапейскіх даследаваннях (беларуская праблематыка там павінна стаць прадметам гаворкі на асобным "круглым стале"). На самым пачатку верасня, у сувязі з Днём беларускай пісьменнасці і друку (асноўныя яго ўрачыстасці адбудуцца ў Тураве, на радзіме Кірылы Тураўскага), у Полацку пройдуць чарговыя (раз у пяць год) Скарынаўскія чытанні. Урэшце, 7--10 верасня ў Заслаўі адбудуцца ўрачыстасці з нагоды 1010-годдзя гэтага старажытнага горада -- "Заслаўскі кірмаш". У праграме -- навуковая канферэнцыя, выстава "З гісторыі Заслаўя" (мясцовы музей спадзяецца, што зарубежныя сябры МАБ прышлюць або прывязуць для яе новыя матэрыялы), фестываль рамёстваў, асвячэнне царквы ў імя ўсіх беларускіх святых.

Сардэчна запрашаем сяброў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, усіх зацікаўленых чытачоў газеты "Голас Радзімы" далучацца да пералічаных вышэй імпрэзаў, якія спрычыняцца да адраджэння беларускай культуры, пашырэння яе здабыткаў у свеце.

Наш адрас: **220050, Мінск--50, Рэвалюцыйная, 15, МАБ, тэл./факс 20-93-50.**

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

# АЛЯКСЕЙЧЫК АЛЯКСАНДР – КАРОЛЬ ПСІХАТЭРАПІІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Неабходна, каб лепей зразумець эфектыўнасць працы выдатнага псіхатэрапеўта, успомніць пра кіраўніцтва псіха-неўралагічнай віленскай бальніцы. Трыццаць год кіраваў гэтым аб"ектам вельмі цікавы і здольны энтузіяст і чалавекалюб -- Юргіс Саргаўціс.

Першы раз трапіўшы (як пацыент неўралагічнага аддзялення) на тэрыторыю бальніцы, я быў прыемна здзіўлены парадкам (у сённяшні час!) і выглядам як знешнім, так і ўнутраным гэтай установы. Не бальніца -- а парк! На ўзгорках і ў лагчынках шумяць клёны, ліпы, бярозы і туі (з Каўказа?), размнажваюцца хвоі, трапляюцца і вельмі рэдкія дрэвы-кветкі, нібы агромныя чырвоныя букеты. Амаль усюды цвіце бэз. Многа клумбаў. Дарожкі і вулачкі чысценькія.

Бальнічныя палаты (вокны, ложкі, падлога) адзначаюцца беззаганнай чысцінёй. Кормяць добра, на працягу месяца я не чуў ніводнай скаргі.

Аднак найбольш уражвае згарманізаваная і культурная праца медперсаналу і абслугі: бездакорная прафесійная дзейнасць дактароў, на рэдкасць дакладная і сумленная праца сястрычак, годная быць прыкладам кухня, мудрае і культурнае кіраўніцтва (за тыдні знаходжання на тэрыторыі бальніцы не пачулася аніводнага грубага слова!). Адным словам, ва ўсім адчуваецца кімсьці створаны асаблівы клімат установы.

Калі я звярнуўся да цяперашняга галоўнага ўрача Раймунда Мілашунаса з пытаннем: "Даруйце, але мяне ўразіў клімат вашай бальніцы. Ці не маглі б вы сказаць мне, як гэтага дабіліся?", то пачуў у адказ: "Не. Вам лепей звярнуцца да доктара Саргаўціса. Гэта ён амаль усё сваё працоўнае жыццё аддаў, каб стварыць такі клімат. Сам ён не захацеў больш кіраваць аб"ектам, але працуе далей, толькі па сваёй спецыяльнасці – мануальнай хірургіі".

Былы дырэктар Юргіс Саргаўціс, вядома ж, стварыў найперш калектыў, у якім адпаведнае месца заняў і Аляксандр Аляксейчык. Зразумела, што выдатны арганізатар і медык Юргіс Саргаўціс адразу належна ацаніў буйны талент Аляксейчыка і з вялікім задавальненнем запрасіў яго на сталую работу ў псіха-неўралагічную бальніцу. І ў сваіх надзеях не памыліўся (пры нашай сустрэчы даў Аляксейчыку выдатную ацэнку).

Чаму ж мы ўключаем доктара Аляксейчыка ў залаты фонд беларускай нацыі? У чым заключаецца яго навізна і веліч у медыцыне? Паспрабуем акрэсліць гэта ў папулярнай форме, даступнай для кожнага чытача. Не беручы на сябе задачы цалкам ахарактарызаваць дзейнасць Аляксейчыка, паспрабуем высветліць хоць некаторыя, асноўныя штрыхі яго піянерскай дзейнасці.

Напомнім, што псіхатэрапія -- гэта лячэнне духовымі метадамі: словам, сугестыяй (унушэннем), гіпнозам. Аляксандр Аляксейчык зразумеў, што псіхічныя захворванні могуць эфектыўна лячыцца толькі псіхічным уздзеяннем. Аднак, прааналізаваўшы дасягненні ў гэтай галіне папярэднікаў і сучаснікаў у Еўропе і іншых краях, Аляксейчык прыйшоў да вываду, што рашаючым фактарам у эфектыўным лячэнні псіхічных захворванняў з'яўляецца вера хворага ў свайго лекара, у яго шчырасць і ўмеласць, прафесіяналізм.

Калі хворы ў чымсьці не давярае доктару, а тым самым і не верыць у пазітыўны рэзультат лячэння, то адразу можна сказаць, што добрых вынікаў не будзе. Вось паводле гэтай аксіёмы і распрацоўваў энтузіяст-лекар свой метад лячэння.

Не лішнім будзе дабавіць, што метадаў лячэння (методык) многа, і нам не хопіць месца на іх апісанне. Аднак карысць для хворага з розных методык розная. Аляксейчык прыняў за базу (аснову) свае працы з хворымі прынцыпы: 1) здабыццё веры (даверу) хворага і 2) канкрэтнасць усіх мерапрыемстваў, 3) строгую паслядоўнасць і (дабавім) фанатычную працавітасць.

Людзі з псіха-неўралагічнымі захворваннямі -- вельмі чулыя, іх не ашукаеш. Яны, як гаворыцца, з ходу пазнаюць, ці доктар гаворыць шчыра, ці ён выконвае свой ліпавы абавязак. Пацыенты Аляксейчыка падзелены на дзве групы: тыя, што пачынаюць лячэнне, і тыя, што выздараўліваюць. У кожнай з іх сістэматычна праводзяцца нарады, уносяцца новыя прапановы, падводзяцца вынікі працы за апошні перыяд. Акрамя таго, стала дзейнічаюць групы па 15--30 чалавек, на сходках якіх уведзена поўная дэмакратыя.

Аўтару гэтых радкоў давялося прысутнічаць на такіх рабочых сходках. Невялікая зала запоўнена пацыентамі і медперсаналам. Адзін раз вёў сход групы Аляксейчык, другі раз -- маладая медсястра Ніёля Шакуціце. Кіраўніцтва сходкі пераменнае. Прысутныя, нягледзячы на пасады і рангі, свабодна выказваюць свае заўвагі на лекарскія, бытавыя ці іншыя праблемы і здарэнні. Абмяркоўваюць вартыя ўвагі пытанні і робяць сумесныя вывады -- практычныя вывады. Вялікае жаданне дапамагчы нешчасным людзям было нязменнай мэтай творчай дзейнасці Аляксейчыка.

Сістэматычна прымяняецца аўтатрэнінг. Акрамя таго, Аляксейчык упершыню прымяняе сістэматыку ў падборы літаратуры -- бібліятэрапію. У апошнія дзесяцігоддзі літаратура і мастацтва сталі займаць штораз большае месца ў лячэнні псіхічных захворванняў. На гэта яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя звярталі ўвагу Поль Дзюбуа, Буш; у 1916 годзе прымяніў бібліятэрапію - Гэрмін, таксама Дадзькоўскі, Карэлаў, Бехцераў. Плённа працавалі ў гэтым напрамку Н.Рубакін, Ражнова, А.Мілер. Але яны не выпрацавалі дозаў, не распрацавалі тэмы дэталёва.

Аляксейчык распрацаваў методыку ўздзеяння на хворага чытаннем адпаведнай літаратуры для аптымізацыі біялагічных і фізіялагічных працэсаў арганізма (для нармалізацыі або зраўнаважання). Мэта ясная: каб замяніць балючыя думкі і перажыванні (пачуцці) і накіраваць іх да новых мэтаў і думак. Рэкамендуемая літаратура павінна ўзбагаціць спосабы уздзеяння, выкарыстоўваючы ўражлівасць, інтымнасць.

Калі разглядаць пытанне больш дэталёва, для хутчэйшага выздараўлення мы спрыяем неспецыфічным працэсам: 1) супакойванне, што функцыянальныя парушэнні, тыповыя для неўроза, не з"яўляюцца пагрозай для здароўя і пасля выздараўлення, 2) задавальненне, выклікаемае чытаннем падабранай мастацкай літаратуры, 3) пачуццё ўпэўненасці ў сабе – адпаведна падабранымі біяграфіямі, успамінамі (напрыклад, Чэхава), 4) павышэнне псіхічнай актыўнасці дапамагае вылечванню траўмаў, а псіхічнае развіццё дапамагае перамагаць перашкоды, 5) накіроўванне -- прыстасаваць думкі і пачуцці да сваіх асабістых думак і пачуццяў. Усё гэта дасягаецца праз сталы кантроль, паўтор, эмацыянальную перапрацоўку, трэнінг, развязванне канфліктаў.

У методыцы Аляксейчыка прадугледжваюцца прынцыпы:

лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць;

лепш адзін раз перажыць, чым сто разоў пабачыць;

лепш адзін раз захацець, чым сто разоў адчуць;

лепш адзін раз зрабіць, чым сто разоў захацець;

лепш адзін раз выканаць з любоўю, чым сто разоў -- абыякава (раўнадушна).

Творчы і арыгінальны падыход Аляксандра Аляксейчыка да лячэння псіхічных захворванняў чалавека даваў і дае выключна пазітыўныя вынікі. Гэта прызналі выдатныя спецыялісты многіх замежных краін. Яго метады сёння выкарыстоўваюцца ў вядомых еўрапейскіх цэнтрах псіхатэрапіі. Імя таленавітага беларускага вучонага-медыка з Вільні становіцца штораз больш папулярным у перадавых інстытутах свету.

**Аляксей АНІШЧЫК.**

225

Недзе 14 лютага ў Віцебску адбылася сутычка Беларускай Вайсковай Рады Паўночнага фронту з бальшавіцкімі ўладамі. Беларусы-вайскоўцы ўзялі верх над чырвонагвардзейцамі і выгналі іх разам з бальшавікамі з горада. Усе мясцовыя арганізацыі і прафсаюзы падтрымалі Раду. Яна забрала ўладу ў свае рукі і рыхтавалася дапамагчы Мінску. А беларускі конны полк у Оршы ўжо пачаў туды прабівацца. Але польскі полк, які стаяў у Віцебску і захоўваў нейтралітэт, 17 лютага напаў на Белвайскраду Паўночнага фронту, арыштаваў яе сяброў, абяззброіў беларускую каравульную каманду і перадаў арыштаваных і ўладу ў Віцебску бальшавіцкаму Савету.

**НАСТУПЛЕННЕ НЕМЦАЎ І ЎЦЁКІ БАЛЬШАВІКОЎ.** Пасля таго, як савецкая дэлегацыя сарвала Брэсцкія перамовы, немцы 18 лютага 1918 года распачалі наступленне па ўсяму Усходняму фронту. На наступны дзень бальшавікі ў Мінску пачалі мітусіцца і панікаваць. У горадзе прыйшлі ў рух беларускія сілы, гатовыя выступіць супраць камісараў. І тыя ледзь паспелі ўскочыць у чыгуначныя вагоны. Наўздагон ім несліся насмешкі і ляцелі камяні. Усяго непатрэбных правадыроў, што ўцякалі ў Смаленск, набралася трошкі больш за сотню. Верных ахоўнікаў камісараў засталося каля 200. Сярод іх былі і польскія легіянеры, што перайшлі на бок савецкай улады. Уцекачы прыхапілі з сабой усю грашовую наяўнасць. Беларускія лідэры спрабавалі адабраць грошы.

226

Камісары ўпарта супраціўляліся, пагражалі страляць з гармат па гораду, забілі некалькіх чыгуначнікаў -- пакуль тыя нарэшце не прычапілі да вагонаў цягнік.

Мяснікоўцы не далі магчымасці арганізавацца беларускай арміі, а самі кінулі Беларусь безабаронную. Гэта, праўда, не азначала, што бальшавікі адмовіліся і ад планаў яе заняволення.

## 25. АБВЯШЧЭННЕ БНР І ЯЕ ВЫЖЫВАННЕ ПАД НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫЯЙ. 1918 ГОД

Некалькі месяцаў дыктатуры бальшавікоў паказалі, што яны імкнуцца не толькі захаваць пад сваёй уладай былую царскую імперыю, але і пашырыць яе памеры шляхам распальвання сусветнай рэвалюцыі. Немцы разглядалі наш край як разменную манету ў дыпламатычным гандлі з Савецкай Расіяй. А польскія сілы будавалі планы выкарыстання савецка-нямецкай бойкі для далучэння беларускіх земляў да ўзноўленай Рэчы Паспалітай як сваёй нацыянальнай дзяржавы. Другая сусветная вайна яшчэ працягвалася. І раптам -- Беларуская Народная Рэспубліка. Што гэта? Містыфікацыя ці рэальнасць?

227

### 25.1. Адраджэнне беларускай дзяржаўнасці

**ВЫХАД З ПАДПОЛЛЯ.** У той жа дзень 19 лютага, калі бальшавікі ўцякалі з Мінска, вызваленыя з турмы лідэры Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады сабраліся, каб узяць на сябе абарону парадку і бяспекі ў горадзе. Камендантам Мінска стаў Канстанцін Езавітаў. Да канца дня 19 лютага беларускія сілы кантралявалі асноўныя аб'екты Мінска. Але ў справу ўмяшаліся падаспеўшыя польскія легіянеры з корпуса Доўбар-Мусніцкага. Позна ўвечары таго ж дня яны пачалі раззбройваць атрады беларускай камендатуры. У ход ледзь не пайшла зброя, але ўдалося дамовіцца аб падзеле горада на два сектары. Беларусы кантралявалі паўночна-заходнюю частку разам з пляцам Свабоды. Выйшаў з падполля і Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда. Нягледзячы на бальшавіцкі тэрор і вострыя недахоп сродкаў, ён не зліквідаваўся, не рассыпаўся, а мужна займаўся беларускімі справамі. І як ва ўзнагароду за тое лёс наканаваў яму вялікую ролю ў нашай гісторыі.

**АБВЯШЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ УЛАДЫ І ПЕРШАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЎРАДА.** Выконваючы волю Усебеларускага з'езда, Выканком Рады абвяшчае сябе вышэйшай уладай на Беларусі, вылучае са свайго складу першы беларускі ўрад -- Народны Сакратарыят Беларусі на чале з Язэпам Варонкам і абяцае хуткае скліканне Усебеларускага Устаноўчага Схода.

228

Усё гэта выкладаецца ў першай Устаўной Грамаце да народаў Беларусі, апублікаванай 21 лютага. Але абвясціць Беларусь незалежнай дзяржавай беларускія лідэры так і не адважыліся. Ды і цяжка было тады зразумець, наколькі важная гэтая справа. Адцягвала напружаная праца па стварэнню нармальных умоў жыцця.

Узнавілася дзейнасць мінскай гарадской думы. Адбылося шэраг сходаў з удзелам спецыялістаў. Да супрацоўніцтва з новым урадам прыцягваліся вядомыя земскія дзеячы. Беларускія часці аб'ядналіся ў І-шы Мінскі Беларускі полк пад кіраўніцтвам Радкевіча, шэфам міліцыі стаў вядомы тэатральны дзеяч Фларыян Ждановіч. У людзей з'яўлялася надзея, што пара бязладдзя міне, бо да ўлады на Беларусі прыйшоў нарэшце яе сапраўдны гаспадар -- беларускі народ.

**ДРУГОЕ НАСТУПЛЕННЕ НЕМЦАЎ.** Але самастойная дзяржаўная дзейнасць беларусаў працягвалася ўсяго 5 дзён. 25 лютага ў Мінск уступілі немцы. Яны прасунуліся на ўсход да Дняпра. Пад уладай Савецкай Расіі засталіся толькі Смаленская, частка Магілёўскай і Віцебскай губерняў (6 паветаў поўнасцю і 9 часткова). Нямецкае войска і не падазравала, што забірае не тэрыторыі Савецкай Расіі, а беларускія землі, у якіх ужо аб'явіўся законны гаспадар -- гэта Выканком Рады Усебеларускага з'езда і Народны Сакратарыят Беларусі. Але немцы не прызналі беларускай улады і заместа яе ўстанавілі сваю. У Мінску яны забралі касу Народнага Сакратарыята, сарвалі з яго будынка

Захар ШЫБЕКА

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ**

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

229

бел-чырвона-белы сцяг ды выгналі службоўцаў. Не прызналі акупанты і польскіх прадстаўнічых арганізацый у Мінску.

**БРЭСЦКІ МІР І ЯГО ВЫНІКІ ДЛЯ БЕЛАРУСІ.** 3-га сакавіка ў Брэсце паміж Савецкай Расіяй і Германіяй быў падпісаны трактат аб міры. Яго складальнікі прызнавалі існаванне Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, а пра Беларусь нават не ўспаміналі, як быццам яе не існавала. Брэсцкі трактат узаконьваў падзел беларускай тэрыторыі паміж ваюючымі бакамі. Рабілася гэта за плячыма саміх беларусаў. У выніку першага падзелу Беларусі за Нямеччынай засталіся акупіраваныя яе арміяй тэрыторыі да Дняпра, астатняя частка беларускіх прастораў дасталася расійскім бальшавікам. Карыстаючыся неакрэсленасцю становішча, Пінскі, Мазырскі, Рэчыцкі і Гомельскі паветы прыхапіла Украінская Народная Рэспубліка. Захопніцкія планы выношвалі польскія і літоўскія палітыкі.

Беларускія лідэры рашуча пратэставалі супраць узаконенай акупацыі немцаў і працягвалі барацьбу за незалежнасць. Але нельга было прамінаць і верагодную магчымасць нeяк дамовіцца з новымі гаспадарамі. Дзеля таго Народны Сакратарыят склаў для акупацыйных улад спецыяльны мемарыял з абгрунтаваннем неабходнасці беларускай дзяржаўнасці. Згодна з Брэсцкім дагаворам, немцы абавязаліся не прызнаваць на тэрыторыі былой Расійскай імперыі ніякіх новых дзяржаў, абвешчаных пасля 3 сакавіка, гэта значыць і БНР. Яна лічылася часткай тэрыторыі Савецкай Расіі і разглядалася, як своеасаблівы залог пад 6-мільярдную

230

кантрыбуцыю, якую ленінскі ўрад абавязаўся заплаціць Нямеччыне. Тэрыторыя першай акупацыі Беларусі ўвогуле аддавалася германскім заваёўнікам. І ўсё ж старанні Народнага Сакратарыята не былі дарэмнымі. Афіцыйна не прызнаны, ён, тым не менш, атрымаў магчымасць распачаць нарматыўную дзейнасць і ратаваць Беларусь, якую расцягвалі на кавалкі.

**АБВЯШЧЭННЕ БНР І ЯЕ КАНСТЫТУЦЫЙНЫХ ПРЫНЦЫПАЎ.** 9 сакавіка 1918 года Выканком Рады Усебеларускага з'езда выдае другую Устаўную Грамату да народаў Беларусі, якая з'яўляецца канстытуцыйнай. У ёй ужо нарэшце гаворыцца аб утварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у межах рассялення і колькаснай перавагі беларусаў. Заканадаўчую ўладу атрымала Рада, а выканаўчую -- Народны Сакратарыят (Алесь Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка, Васіль Захарка, Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, А.Аўсянік, Леанард Заяц). Але беларуская дзяржава па-ранейшаму трактуецца як частка агульнарасійскай федэрацыі, хоць фактычна ніякай сувязі з бальшавіцкай Расіяй не існуе. У Грамаце праводзяцца сацыялістычныя прынцыпы. Шануюцца правы нацыянальных груп, касуецца прыватнае ўладанне зямлёй, якая перадаецца тым, хто на ёй працуе, уводзіцца 8-гадзінны рабочы дзень. Па свайму дэмакратызму канстытуцыйная беларуская Грамата стаіць вышэй канстытуцыі Савецкай Расіі 1918 года. У БНР ніхто не пазбаўляецца права выбіраць і быць абраным. У ёй забараняецца вайна супраць рэлігіі і ўсялякая цэнзура.

БНР паўставала як сацыялістычная дзяржава.

231

**АБ'ЯДНАННЕ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ СІЛ МІНСКА І ВІЛЬНІ.** Акрамя Мінска, моцны палітычны асяродак беларусаў склаўся ў Вільні. Доўгі час паміж двума беларускімі цэнтрамі пралягала лінія фронту. Калі ж яна абвалілася, абодва асяродкі пацягнуліся адзін да аднаго. Поспехі Вільні былі больш сціплымі. Пад нямецкай акупацыяй кучка віленскіх дзеячаў не магла і марыць пра свае палітычныя структуры, як таго дабіліся беларусы ў рэвалюцыйнай Расіі. Але і там прыхільнікам беларускай справы ўдалося сабрацца ў Вільні 25--27 студзеня 1918 года на канферэнцыю і яшчэ раз падняць пытанне аб беларуска-літоўскай канферэнцыі ды стварыць Віленскую Беларускую Раду. Яшчэ 18 лютага гэтая Рада аб'явіла аб разрыве сваіх сувязей з Расіяй. І вось пасля абвяшчэння БНР трэба было прыцягнуць віленскіх дзеячаў да нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва ў Мінску. 18 сакавіка Рада Усебеларускага з'езда абвясціла сябе Радай БНР і папоўніла свой склад 9 прадстаўнікамі Віленскай Беларускай Рады. Сярод кааптаваных былі Іван ды Антон Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі. У Раду БНР увайшлі таксама прадстаўнікі земстваў, гарадскіх самаўпраўленняў ды нацыянальных груп на Беларусі --палякі, яўрэі, рускія, украінцы, літоўцы.

**АБВЯШЧЭННЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БНР.** 23 сакавіка віленскіх членаў Рады БНР запрасілі на пасяджэнне Народнага Сакратарыята. Абмяркоўвалася балючае пытанне: дзе ўзяць грошы. З прычыны таго, што бальшавікі, а потым немцы абрабавалі мінскую касу, было вырашана

232

папрасіць пазыку ва ўрада Украінскай Народнай Рэспублікі. І тут Антон Луцкевіч выступіў з прапановай -- перш чым пасылаць дэлегацыю ў Кіеў, абвясціць незалежнасць Беларусі. Ён аргументаваў гэта наступным чынам. БНР фармальна з'яўляецца тэрыторыяй Расіі, бо федэратыўная сувязь з ёю, абвешчаная на Усебеларускім з'ездзе, ні першай, ні другой Устаўнымі Граматамі не касавалася. А таму ўкраінскі ўрад, які прызнаваўся і Расіяй, і Нямеччынай, не мог пазычыць грошы расійскай тэрыторыі без дазволу Масквы. Прымаць жа ад украінцаў ахвяраванне было б не годна для беларусаў. Па-другое ж, абвяшчэнне незалежнасці будзе пратэстам супраць Брэсцкага міру, супраць падзелу Беларусі.

Спачатку гэтае пытанне перанеслі на разгляд фракцыі БСГ у Радзе БНР. Разгарэліся спрэчкі. У рэшце рэшт грамадаўцы пагадзіліся з Антонам Луцкевічам. Яшчэ большыя спрэчкі выбухнулі на чарговым пасяджэнні Рады, якое пачалося а 8-й гадзіне вечара 24 сакавіка. Фракцыя БСГ унесла прапанову аб абвяшчэнні незалежнасці БНР. Даклад аб неабходнасці дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі зрабіў кіраўнік фракцыі, фактычна старшыня БСГ, народны сакратар земляробства Аркадзь Смоліч. Абмеркаванне даклада працягвалася 10 гадзін. Выступіла 26 чалавек. І толькі каля 6 гадзін раніцы наступнага дня рэзалюцыя аб незалежнасці была прынята. Прыхільнікі саюза з Расіяй -- прадстаўнікі земстваў, гарадоў і Бунда -- апынуліся ў меншасці.

# ЦІ ПАТРЭБЕН ТЭАТР ДЗЕЦЯМ?

**У Мінску прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Псіхалагічная рэабілітацыя дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва" і трыянале "Тэатр -- дзецям".**

I

У канферэнцыі прынялі ўдзел псіхолагі, педагогі, дзеячы тэатра з Беларусі, Расіі, Украіны і Германіі. Яны абмяркоўвалі праблемы дзейнасці дзіцячых тэатраў у галіне маральна-псіхалагічнай рэабілітацыі і падтрымкі школьнікаў, псіхакарэкцыю дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва. Было на канферэнцыі шмат сур'ёзных навуковых дакладаў. Навукоўцы і дзеячы мастацтва высвятлялі, як успрымаюць, разумеюць і перажываюць тэатральнае дзеянне хлопчыкі і дзяўчынкі, што дае і можа даць тэатр чалавеку ў працэсе яго развіцця.

Цікавасць дзяцей да тэатра не нараджаецца разам з імі. Яе трэба выхоўваць. Сёння гэта даволі праблематычна, бо дзеці знаходзяцца ў палоне масавай культуры, якая штодзень рухаецца на іх з тэлеэкранаў, экранаў кінатэатраў. Безгустоўныя фільмы, рэклама фарміруюць у дзяцей няправільную сістэму мастацкіх каштоўнасцяў. На канферэнцыі неаднойчы падкрэслівалася, што дзяцей трэба ратаваць ад масавай культуры. І дапамагчы ў гэтым можа тэатр.

Мастацкая вартасць пастаноўкі неабавязкова азначае, што дзеці прымуць і зразумеюць спектакль. Іх да гэтага трэба рыхтаваць. У Рэспубліканскім тэатры юнага гледача існуе для гэтага псіхолага-педагагічная служба. Яе загадчык Фрыдрых Модэль расказаў, што пры ТЮГу працуюць курсы для настаўнікаў "Мастацтва быць гледачом". Педагогі ж павінны несці свае веды пра тэатр дзецям. І тады вучні будуць адчуваць сябе ў тэатры больш утульна. Гэтаму ж спрыяюць сустрэчы з акцёрамі па-за спектаклем.

Мастацтва, тэатр, у прыватнасці, робяць з дзецьмі цуд. Польскі госць, у мінулым акцёр, а зараз мастацкі кіраўнік і дырэктар тэатра Людовы (Кракаў) Ежы Федаровіч расказаў пра свой вопыт зносін з падлеткамі. Панкі і брытагаловыя хлопцы наладжвалі бойкі каля ягонага тэатра. З цягам часу людзі перасталі хадзіць туды, бо баяліся. Ежы Федаровіч запрасіў тых падлеткаў зайсці ў тэатр. Зразумела, адразу з імі не адбылося цудоўнага ператварэння. Аднак яны палюбілі тэатр, бо Ежы Федаровіч зрабіў на некаторы час з іх акцёраў -- паставіў "Рамэо і Джульету". Ішлі доўгія рэпетыцыі, было шмат складанасцяў. Аднак спектакль адбыўся. Рамэо іграў панк, Джульету -- дзяўчынка, якая перамагла 350 іншых прэтэндэнтак у конкурсе на гэтую ролю. Ніхто з хлопцаў і дзяўчынак, што ўдзельнічалі ў спектаклі, не стаў акцёрам. Але ж здарылася больш важнае. Як сказаў Е.Федаровіч, сярод іх з'явілася 4 сям'і і адно дзіця. Калі раней ніхто з іх ніколі не наведваў тэатр, то цяпер яны ходзяць туды пастаянна. Тэатр можа стаць не толькі мастацкай каштоўнасцю ў жыцці чалавека, ягоныя элементы могуць выкарыстоўвацца ў лячэнні псіхічных парушэнняў. Гэта даказала ў сваёй практыцы псіхолаг з Германіі Гудрон Гаўда. Яна лічыць: "У дзяцей больш праблем, чым у дарослых, бо яны іх цяжэй пераадольваюць. Вылечыць дзіця --гэта значыць не палепшыць яго, а палепшыць сітуацыю".

У пакоі Гудрон Гаўда дзяцей сустракаюць лялькі. Малым гавораць, што яны могуць гуляць з імі ў тэатр. Пазней хлопчыкам і дзяўчынкам (заняткі, зразумела, індывідуальныя) даюць матэрыял, і яны сваімі рукамі робяць з яго цацку. Пастаць, якая атрымліваецца ў дзіцяці, можа быць цудоўнай прынцэсай, зверам, д'яблам. У рэшце рэшт герой, створаны дзіцем, -- гэта ўвасабленне ягонага страху, злосці, агрэсіі, комплексаў. Дзіўна, але дзеці ў працэсе гульні пазбаўляюцца сваіх заганаў. З адным дзецьмі псіхолаг праводзіць 10 заняткаў, з другімі "гуляе" цэлы год. Гэта залежыць ад складанасці праблемы, з якой прыйшло дзіця да ўрача.

Бацькі, настаўнікі, грамадскасць павінны захацець выратаваць сваіх дзяцей ад духоўнага вакууму. На пытанне: "Як у гэтым можа дапамагчы тэатр?", дае адказ, акрамя канферэнцыі, трыянале "Тэатр -- дзецям".

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

Прыкметнай падзеяй у культурным жыцці стаў удзел у адной з буйных рэспубліканскіх выставак народных майстроў — Вольгі Івановай з Віцебска. На фоне традыцыйных відаў мастацтва -- ткацтва, керамікі, разьбы па дрэву -- маляўнічыя мініяцюры Вольгі выклікалі ўсеагульную цікавасць.

Вольга Іванова -- архітэктар, працавала ў праектных арганізацыях, поўнасцю аддаючы сябе любімай справе. Магчыма, так ішло б і далей, але, як і ўсюды, пачаліся скарачэнні. Засталася без працы і Вольга. Маладая жанчына ўспрыняла тое, што здарылася, як асабістую трагедыю. Трэба было шукаць, чым зарабляць на жыццё. І тут дапамагло ўменне маляваць. Спачатку распісвала сувенірныя велікодныя яйкі, потым паспрабавала сябе ў роспісе мініяцюрных шкатулак. Пошук мастака і несумненныя здольнасці прынеслі поспех. Апошняму ў немалой ступені садзейнічала і глыбокае веданне беларускіх традыцый, нацыянальнага касцюма і, вядома, архітэктуры, якая прысутнічае амаль у кожнай рабоце. І яшчэ -- высокая патрабавальнасць да тэхнікі выканання і унікальнасць кожнай работы. Вольга іх не тыражуе.

У мастачкі многа цікавых задум. У прыватнасці, яна марыць зрабіць серыю мініяцюр помнікаў беларускай архітэктуры.

Яўген КАЗЮЛЯ.





НА ЗДЫМКАХ: Вольга ІВАНОВА і яе работы.

Фота аўтара.

## АЖЫВАЕ МІНУЛАЕ

# АДНА СТАРОНКА...

Аднойчы неяк -- не памятаю, з якога ўжо выпадку -- мяне папрасілі напісаць адну старонку пра Кузьму Чорнага.

Адну толькі? Пра Кузьму Чорнага?..

А зрэшты: хіба да гэтага часу -- хіба не ўсё яшчэ напісана? Напісана і глыбока, і аналітычна, і акадэмічна-сумнавата... У кожнага свой Кузьма Чорны. Што ж датычыць непаўторнасці яго кніг і яго асобы, дык яны зусім не залежаць ад таго, колькі старонак будзе напісана пра Чорнага.

Самая-самая першая стрэча.

Гэта было яшчэ тых часы, калі Кніга не замыкалася, як нявольніца, у непрыступным паліраваным гарэме якога-небудзь пыхлівага кніжнага пашы; калі яна не ведала пышнага ўбрання і ў сваім буднённым рабочым адзетку дэмакратычна ўладкоўвалася на звычайнай паліцы публічнай бібліятэкі, каб аддана служыць і рабіць багацейшым кожнага, хто шукаў з ёю стрэчы. Не ведала і той ганьбы, якая стрэла яе -- праз гады! -- на сённяшнім "рынку": усё на продаж!..

...Я вучылася ў шостым класе. Да таго часу я перачытала ўжо без разбору ўсе "раманы" Шэлера-Міхайлава і князёў Северына і Валконскага. Перачытала Мельнікава-Пячэрскага і Пісемскага... І таму, відаць, наш школьны бібліятэкар Толя Булат даваў мне чытаць кнігі "дарослыя". Неяк зімой, у суботу, я забегла на перапынку ў бібліятэку памяняць на выхадны кнігу, Толя Булат, не выпускаючы з рук, паказаў мне зусім новенькую, у светлым шэрым пераплёце кнігу.

-- Даў бы табе на выхадны пачытаць цікавае, ды баюся: згубіш па дарозе ці дома забудзеш...

Кожную суботу, на выхадны, мы, вясковыя дзеці, хадзілі дадому -- адмыцца за ўвесь тыдзень у ночвах гарачага мылкага "лугу", перамяніць бялізну і набраць яды на наступны тыдзень.

Зразумела, пасля такога ўступу "цікавае" зрабілася ў сто разоў цікавейшым!

"Трэцяе пакаленне" Кузьмы Чорнага бібліятэка толькі што атрымала, і кнігу -- прачытанай -- трэба было вярнуць у панядзелак. Ахвотнікаў чытаць у школе было дастаткова.

...Дома я чытала ўвесь той суботні вечар, чытала, калі ўжо ўсе палеглі і даўно паснулі, і назаўтра -- увесь дзень, пакуль не надышоў час збірацца і кіравацца назад у дарогу, зноў на цэлы тыдзень у школу, на кватэру да гаспадыні.

Я была так захоплена ўсім прачытаным за гэты імгненна прамільгнуўшы вечар, ноч і дзень, што нават, сяк-так пакуючыся і збіраючы сябе ў дарогу, не магла ні пра што іншае ні думаць, ні гаварыць. І гэтым злавала сваіх хатніх.

-- Была б карысць ад гэтых кніг, калі б яны яе нечаму людскаму вучылі, -- сварылася цётка Іваніха, дзе я гадавалася, -- а то слова путнага ад яе не пачуеш!

А "путныя словы" мне проста не было калі гаварыць: неабходна было абавязкова дачытаць кнігу.

І немагчыма паверыць: я дачытала яе і, ні на хвіліну пра яе не забываючы, забыла кнігу дома!

Мяне раптам нібыта токам ударыла толькі тады, калі ўсе мы гуртам, паспеўшы прайсці вёрст з пяць, селі адпачыць на чыгуначным насыпе. Я пачала сутаргава перакідаць усё ў сваёй карзіне... Кнігі не было!

Было страшэнна боязна вяртацца дадому адной, насустрач ночы, па глухой, заваленай снегам дарозе. І немагчыма нават уявіць было сабе, як я пакажуся заўтра ў бібліятэцы без кнігі...

З плачам і горам вяртаюся я адна дадому.

...Але вось непрыкметна дагнала мяне і пайшла са мною побач, спачуваючы і ўсцешваючы мяне, добрая і разумная Зося-служанка. А каб нам не было боязна уночы, нас усю дарогу суправаджаў адважны чырвонаармеец Кандрат Назарэўскі -- абаронца ўсіх абяздоленых. За руку з намі драбненька подбежкам тупала яго ўсмешлівая бялявая сястрычка Ірынка. А збоку, паводдаль, сціснуўшы ў руцэ пугу, упарта трымаўся свае сцежкі пастушок багацея Скуратовіча Міхал Тварыцкі...

Дарога была далёкая і няроўная. У небе скупа мігцелі зімнія зоркі. У густым зарасніку лазняку на Кляпчанскім балоце чутно было не то выццё, не то стогн -- то маглі выць ваўкі, маглі быць і бандыты з банды Толіка Скуратовіча... Але побач ішлі непахісны чырвонаармеец Кандрат Назарэўскі і каваль Несцяровіч з-пад Дзвюх Хат, што сабраў атрад партызан. Пад іх надзейнай абаронай зусім было нястрашна вяртацца дадому па забытую кнігу "Трэцяе пакаленне".

...І вось сёння, перачытваючы старонкі гэтае кнігі -- праз столькі год! -- я зноў адчуваю над сабой яе неадольную ўладу. Уладу, бадай, перш за ўсё яе густой смачнай мовы той зямлі -- Случчыны, -- дзе наканавана было нарадзіцца і мне таксама.

"Пакаштуйце, ну, пакаштуйце. От я вам адрэжу. Бачыце, якое сала! Там у іх саўгас -- то каб вы паглядзелі! Парсюкі стаяць такія, што, каб я жыў, мядзведзь не ўбярэ. Як горы!.. А можа б вы для апетыту ўзялі б кропліо? Не хочаце! Не п'яце? А можа дзіця ў губу ўзяло б каліва? Спіць? Ну, няхай здарова спіць".

Кузьма Чорны.

І не трэба болей "старонак".

Алена ВАСІЛЕВІЧ.

## КІНО Ў "ЛІСТАПАДЗЕ"

У Мінску прайшоў фестываль постсавецкага кіно "Лістапад-94".

Чатырнаццаць карцін з Расіі, Францыі, Беларусі, Літвы, Грузіі, ЗША змаглі ўбачыць гледачы, якіх запрасілі ў гэтыя дні два сталічныя кінатэатры, -- "Кастрычнік" і "Цэнтральны". Фільмы славутых і пачынаючых рэжысёраў вельмі цёпла сустрэла мінская публіка. На фестывалі працавала кінематаграфічнае, журналісцкае і глядацкае журы, якое вынесла сваё рашэнне. Так, кінематаграфісты і гледачы лепшым палічылі фільм Мікіты Міхалкова "Ганна. Ад 6 да 18". Журналісты ж на першае месца паставілі карціну Міхаіла Пташука "Кааператыў "Палітбюро".

**ПРА ЯГО ДАГЭТУЛЬ ГАВОРАЦЬ ПАЎШЭПТАМ**

# ХТО Ж ЁН, ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ?

І адказ на гэтую веру: "Замест шырокае культурнае працы ў Савецкай Беларусі, якую абяцалі мне перад маім выездам, -- цесная камера ў падвале з выбітымі вокнамі". І ганебна вядомы 58-мы артыкул у дачыненні да Ф.Аляхновіча: "Участие в организации или содействие организации действующей в направлении помощи международной буржуазии".

Атрымаў дзесяць гадоў. Без следства і суда. Востраў Мяг, Салаўкі, востраў Конд, пасля перавод на мацярык у Кем, нарэшце, у Бутырку, у Маскву... Перад тым як вырашылі абмяняць з польскімі ўладамі на Браніслава Тарашкевіча, магчымасць сустрэцца ў Мінску з маці.

Нарэшце, самы адказны момант. Пра гэта Ф.Аляхновіч расказвае ў аповесці ці то з усмешкай, ці то з сарказмам. Урэшце, і ўвесь твор літаральна насычаны падобнымі момантамі. Што ж, калі чалавек у невыносна цяжкіх умовах здатны яшчэ пакпіць з сябе, гэта моцны чалавек: "У гэты момант я адчуў не толькі духоўны, але і фізічны кантраст паміж намі. Вязень "капіталістычнага грамадства" (Б.Тарашкевіч. -- **А.М.**) меў на сабе прыстойны фільцовы капялюш, добра скроенае восеньскае паліто, беззаганна вычышчаныя боты. Савецкі вязень ішоў у старэцкім падзертым кажуху на салавецкім "бушлаце". Паздароўкаліся -- столькі ж гадоў не бачыліся, паздароўкаліся і развіталіся".

Калі верыць А.Сабалеўскаму, бытуе легенда, што "калі параўняліся, дык на колькі імгненняў прыпыніліся і Аляхновіч кінуў: "Ты дарэмна туды ідзеш!" Можа і сказаў Ф.Аляхновіч гэтыя словы, толькі чамусьці іх у аповесці няма. А можа і прамаўчаў. Уявім сабе ягоны стан. Чаканае вызваленне праз сем гадоў турмы і лагераў, і хто ведае, што можа быць пасля гэтага, здавалася б, нявіннага: "Ты дарэмна туды ідзеш!"

Як цяжка ні было, але вязні ў Салаўках стварылі свой тэатр. Акцёры-вязні мелі поспех, іх часам ставілі на больш лёгкія работы. Ф.Аляхновічу пашанцавала папрацаваць музейным вартаўніком. Галоўнае ж, што ў гэтых нечалавечых умовах была хоць нейкая аддушына.

Вызваленне ж -- сапраўднае вяртанне з пекла. Пра гэта лаканічна і праўдзіва сказана ў заключных радках аповесці "У кіпцюрох ГПУ": "У той жа вечар сядзеў я ўжо ў гасподзе ў Стоўбцах і спажываў мясную вячэру. Еў праўдзівы валовы біфштэкс! З цыбуляй! З бульбай! З белым хлебам! Дык не дзіва, што пасля шматгадовай галадоўкі сніліся мне ўначы -- бальшавікі.

А назаўтра -- спатканне з прыяцелямі на вакзале ў Вільні...

Цяпер -- да новага жыцця, да новай працы! Немарасль мінула".

"Немарасль мінула", але не сказаць, каб Ф.Аляхновічу аказалася проста жыць у Вільні. Ішоў 1933 год. Да сямейнай неўладкаванасці (жонка не дачакалася, а раней развёўся з першай) дадаліся і праблемы беларускасці. Гэта была ўжо не ранейшая Вільня, у якой з такой спагадай ставіліся да ўсяго беларускага. Не прынёс палёгкі і 1939 год, калі, як вядома, Вільня перайшла да Літвы. Праз колькі часу -- далучэнне да Савецкага Саюза. Гэта ўжо яму нічога добрага не абяцала. Ф.Аляхновіч хаваўся, як толькі мог.

Неяк працягнуў да 22 чэрвеня 1941 года. І... лёс спрыяў яму і як бы здзекаваўся адначасова. Тыя, каму Ф.Аляхновіч верыў, садзілі яго ў турмы, высылалі ў лагеры. Тыя, каго, па логіцы, ён павінен быў ненавідзець, паколькі яны выступалі супраць усяго беларускага, беларусаў не лічылі людзьмі, сталі яго вызваліцелямі.

Як ужо гаварылася, выпуск газеты "Беларускі голас" даваў магчымасць не адыходзіць ад літаратуры. Хаця якой цаной давалася гэта! Спрабаваў пісаць п'есы. Дапрацаваў "На Антокалі", падправіў "У лясным гушчары", адрасаваную дзецям. З'явіўся і новы твор -- камедыя "Круці, не круці -- трэба памерці" (1943), які змясціў у часопісе "Новы шлях". П'еса цікавая тым, што ўжо тады Ф.Аляхновіч здолеў узняцца да асуджэння сталінізму.

Назва ж п'есы стала сімвалічнай у дачыненні і да лёсу Ф.Аляхновіча. Сапраўды, "круці, не круці -- трэба памерці". Вінаваты -- не вінаваты, а за ўсё неабходна плаціць. І пісьменнік -- жыццём "заплаціў" за ўсё 3 сакавіка 1944 года.

Існуе некалькі версій яго смерці. Бадай, самая распаўсюджаная, што яго прыгаварылі да расстрэлу за супрацоўніцтва з фашыстамі партызаны. Маўляў, гэты прысуд і выканаў адзін з віленскіх падпольшчыкаў. Хто кажа, у рэдакцыі "Беларускага голасу", хто -- на кватэры Ф.Аляхновіча. Па другой версіі, у кабінет да Ф.Аляхновіча позным вечарам зайшлі двое, пасля чаго і прагучаў выстрал. Зноў жа гэта маглі быць і партызаны, але і самі немцы, якім ён нечым не спадабаўся. Прамільгнула і думка, што Ф.Аляхновіч забіты агентам (ці агентамі) НКУС... Як бы там ні было, але Ф.Аляхновіч пайшоў з жыцця не па ўласнай волі.

Тут, як кажуць, нічога не дадаць. Хіба што з цягам часу з'явяцца якія-небудзь падрабязнасці адносна гэтай смерці. Ды цяпер не пра гэта. Гаворка пра рэабілітацыю Ф.Аляхновіча-пісьменніка. Яго драматургія нарэшце павінна вярнуцца да сучаснага чытача і гледача. Як не пагадзіцца з А.Сабалеўскім: "Пры ўсёй няроўнасці, а іншы раз і пэўнай спрэчнасці яны (п'есы. -- **А.М.**) заключаюць у сабе шмат агульнага, што характарызуе драматургію Аляхновіча. П'есам уласцівы глыбокі дэмакратызм, а часам і больш --народнасць. Яны вызначаюцца напружанасцю інтрыгі, дынамізмам дзеяння, сцэнічнасцю... Многія з іх даюць магчымасць стварыць яркае сцэнічнае відовішча з выкарыстаннем музыкі, песень, танцаў. Усё гэта -- не толькі асаблівасці ўласна драматургіі, а і шырэй -- аляхновіцкага тэатра, яго эстэтыкі".

Вяртанне да Ф.Аляхновіча -- вяртанне да вытокаў нацыянальнага тэатра. Яно асабліва патрэбна сёння, калі мы ладзім нацыянальнае Адраджэнне.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 43—45.**

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

**На абанементе павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

# ПАБРАЦІМ ДЗЕКАБРЫСТАЎ

**(Працяг.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

У філамацкай дыскусіі пра гэта ён выступіў з грунтоўным дакладам "Пра перабудову таварыства і падзел яго на пяць ступеняў". Апрача чыста арганізацыйных момантаў ён закранаў і маральныя прынцыпы таварыства і яго членаў, казаў пра адносіны філаматаў да запрыгоненага сялянства. Сярод патрабаванняў, якія выстаўляў Рукевіч перад філаматамі, было, напрыклад, такое: "Тут кожны член таварыства, які мае прыгонных, абавязваецца, што на працягу шасці гадоў пасля таго, як зойме маёнтак у сваё ўладанне, ці з часу набыцця гэтакай ступені навучыць маладых сялян чытаць і пісаць і, пачынаючы з лепшых і найбольш паважаных гаспадароў, вызваліць іх, каб кожны пасля шасці гадоў быў дабравольным чыншавіком ці адработчыкам. Калі ж член таварыства будзе арандаваць маёнтак ці прыме яго ў заклад, ён павінен імкнуцца падрыхтаваць сялян да гэтай перамены".

З ахвотай узяўся Рукевіч памагаць Францішку Малеўскаму ў складанні інструкцыі для геаграфічнага апісання парафій, сам даў прыклад такога апісання з Беласточчыны.

Але ўсё ж важнейшай была дзейнасць Міхала Рукевіча ў родных мясцінах. У Беластоку з дапамогай выкладчыка гімназіі былога філамата Зыгмунта Навіцкага ён здолеў арганізаваць у ёй згуртаванне гімназістаў "Згодныя браты", якое ўзначаліў Фелікс Ляховіч. Такую ж арганізацыю стварыў Міхал Рукевіч разам з Ляховічам і ў Свіслацкай гімназіі. У 1823 годзе "Згодныя браты" былі перайменаваны ў "Заран" -- тых, што нясуць зару новага жыцця. У адпаведнасці з сваёй задумай Рукевіч арганізаваў таксама саюзы моладзі ў Гародні, Сакулцы, Бельску, Драгічыне і Шчучыне (тут яму памог Ануфры Петрашкевіч).

З 1823 года Міхал Рукевіч пачаў арандаваць фальварак Завыкі. Калі пачаліся арышты філарэтаў, да яго ў гэтую ціхую беларускую вёсачку хацеў прыехаць Адам Міцкевіч, каб перачакаць неспакойны час. Пра намер Міцкевіча паведамляў Рукевічу Ян Чачот. Захавалася пісьмо гаспадара Завыкаў ад 21 верасня 1823 года Яну Чачоту, у якім Рукевіч пісаў так: "Яну -- Міхал. Пісьмо тваё ад 13 верасня я атрымаў з апошняй поштай. Намер Адама прыехаць да мяне пажыць мяне вельмі ўзрадаваў, бо для мяне адзінай мэтай і адзіным шчасцем ёсць дружба. "Яму вельмі прыкра, як ты кажаш, выцїраць куты, хоць яны і прыяцельскія, і не вельмі даспадобы гэтая прапанова", але сапраўдны сябар пастараецца змяніць гэтую думку. Можа, са мной любаму Адаму не будзе так прыемна, як з Янам ці Тамашом, але ж і Міхал гэтакі ж, як і яны, сябар і будзе рады яго бачыць. Хоць можа і не так здолею сустрэць яго, аднак я ўсё зраблю, каб Адам не адчуваў, што ён выціРае чыесьці куты... Хай Адам прыязджае, калі захоча, і чым хутчэй: чакаю яго з адкрытым сэрцам..." Але намер Адама Міцкевіча пажыць у Рукевічавых Завыках так і застаўся намерам, бо неўзабаве і Міцкевіча, і Рукевіча арыштавалі. Жандары, што заявіліся ў Завыкі, пад канвоем пагналі гаспадара фальварка ў Вільню, дзе яго пасяляюць у турэмныя сцены Францішканскага кляштара. І тут, у турме, Рукевіч змог паказаць свой арганізатарскі талент. Каб падняць падупалы дух філарэтаў і філаматаў у турэмных сценах, асабліва "галоўнага бунтара" Тамаша Зана, Рукевіч арганізоўвае вясёлыя абходзіны яго імянінаў, пра якія шмат гаварылі ў Вільні і пра якія з прыемнасцю ўспаміналі потым усе зняволеныя.

На следстве Міхал Рукевіч трымаўся мужна і ўсе абвінавачванні адмаўляў. У сваім рапарце "Его Императорскому Высочеству Государю Цесаревичу и Великому Князю Константину Павловичу" сенатар Навасільцаў даносіў, што, нягледзячы на паказанні Яна Янкоўскага, быццам "живущий около Белостока Рукевич принадлежал к обществу филаретов и покушался к учреждению там подобного общества", пацвярджэння гэтаму ўстанавіць не ўдалося, наадварот, усе апытаныя "единодушно утверждают, что никогда не слышали, чтобы Рукевич имел намерение заводить какое-либо общество в Белостоке, а как, кроме сего, по выправке в университетских списках оказалось, что Рукевич, окончив в университете науки, в последних числах июня 1820 года, из Вильны удалился, а общество филаретов основалось в 1820 г. в октябре месяце, следственно, уже после выезда Рукевича, то я, не находя в объявлении Янковского основательности, предписал Рукевича освободить из ареста, тем более, что в забранных у него бумагах ничего подозрительного не оказалось". Як бачым, шчупак удала выслізнуў з рыбаковых рук. Відаць, далёка яшчэ было тайным службам Навасільцава да адпаведных службаў нашага часу.

Вярнуўшыся ў Завыкі, Міхал Рукевіч не толькі не кінуў свой небяспечны занятак, але яшчэ з большай энергіяй узяўся за арганізацыю супраціўлення царскай тыраніі. Пазнаёміўшыся з афіцэрамі Літоўскага асобнага корпуса царскіх войск, часці якіх былі размешчаны за тры вярсты ад Завыкаў, у мястэчку Бранск, Міхалу Рукевічу ўдалося згуртаваць гэтых афіцэраў у рэвалюцыйную арганізацыю, якую назвалі Таварыства ваенных сяброў. Кіраўнічы камітэт арганізацыі склалі афіцэры Ігельстром, Вегелін, Гофман, Трамбецкі, Пятроўскі. Самы старшы па чыну быў сярод іх камандзір 1-й роты Літоўскага піянерскага батальёна капітан Канстанцін Ігельстром, і ён згодна з логікай павінен быў бы ўзначаліць арганізацыю, але ён палічыў за лепшае быць толькі членам кіраўнічага камітэта. Старшынёй згуртавання выбралі паручніка Гофмана, Рукевічавага земляка і сябра дзяцінства. Сам жа арганізатар таварыства Рукевіч, відаць, з тактычных меркаванняў у кіраўнічы камітэт не ўвайшоў, прынамсі фармальна. Тым больш, што ён быў пад паліцэйскім наглядам.

**Кастусь ЦВІРКА.**

**(Заканчэнне будзе).**

# ЦІ ПАТРЭБЕН ТЭАТР ДЗЕЦЯМ?

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

II

Яно прынесла шмат радасці ўсім, хто на яго трапіў. У ім удзельнічалі тры тэатры: Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, Расійскі Акадэмічны тэатр моладзі (Масква) і Нацыянальны тэатр горада Мангейма (Германія).

Кожны з гэтых тэатраў пасвойму вырашае, якія спектаклі патрэбны дзецям і моладзі. Нямецкі тэатральны калектыў, як і нямецкія навукоўцы, упэўнены, што з дзецьмі трэба гаварыць пра ўсё. Абмеркаванне праблемы -- гэта першы крок да яе вырашэння. Такі іх дэвіз. Спектаклі горада Мангейма распавядаюць пра праблемы полаў, пра пошукі чалавекам свайго месца пад сонцам. Казка, якую паказаў нямецкі калектыў, пастаўлена нібы для таго, каб дзеці зразумелі, што яе не існуе і ў жыцці можна спадзявацца толькі на сябе. Беларускі тэатр юнага гледача паказаў пяшчотны спектакль "Стваральніца цуда" пра чалавечае гора і дабрыню і спектакль паводле сцэнічнай кампазіцыі трупы "Шнавль" "Пра гэта не гавораць", які выклікае шмат спрэчак з дня сваёй пастаноўкі.

Самым яркім спектаклем быў, на мой погляд, маскоўскі спектакль "Наш гарадок". Простыя людзі ў маленькім горадзе любяць адзін аднаго, п'юць каву, чытаюць газеты. Аднак рэжысёр спектакля Аляксей Барадзін зрабіў са звычайнага жыцця цікавае дзейства, у якім акцёры іграюць цудоўна, кожная рэч на сцэне мае асобы сэнс (рэквізіт, наогул, з'яўляецца толькі ў самым канцы спектакля). Са спектакля ідзеш пад моцным уражаннем ад яго, разумееш, што галоўная думка аўтараў -- гэта жаданне, каб людзі нарэшце пачалі заўважаць адзін аднаго, глядзець у вочы і бачыць, што ў іх, цаніць кожнае імгненне шчасця ці радасці. Хай сабе і кажа гераіня п'есы, што ўся праблема людзей у тым, нібыта ўвесь свет створаны не так, як трэба. Кожны з нас гэта ведае ўжо даўно. Але я ўпэўнена, што людзі, якія выціралі непаслухмяныя слёзы ў час спектакля (а такія, уявіце сабе, былі), выйшлі з тэатра з жаданнем, калі не пачаць новае жыццё, дык змяніць у ім хоць нешта. Артысты і рэжысёр, мабыць, хацелі дасягнуць менавіта гэтага.

**Алена СПАСЮК.**

**Габрыэль ЛАЎБ**

## АФАРЫЗМЫ

**На гэтым свеце варта быць усё жыццё турыстам. Турыстам паказваюць толькі тое, што варта ўбачыць.**

**Час -- гэта грошы, якіх нельга адкласці ў банку на пазнейшыя гады.**

**Жыццё можа стацца прыемным. Але робіць гэта з вялікай неахвотай.**

**Чалавецтва можа захаваць толькі адно з двух -- ці памяць аб сабе, ці павагу да сябе.**

# АНДАТРА І НУТРЫЯ — ЭМІГРАНТЫ З АМЕРЫКІ



У Браслаўскіх, Асвейскім і іншых азёрах Беларусі жывуць невялікія пушыстыя звяркі рыжаватага і цёмна-каштанавага колеру. Гэта андатра, ці мускусны пацук, прадстаўнік атрада грызуноў. Ураджэнка Паўночнай Амерыкі распаўсюджана там з усходу на захад, ад Ціхага да Атлантычнага акіяна. Тут гэта асноўны промыславы звярок, якога здабываюць штогод да 10 мільёнаў дзеля яго прыгожай і каштоўнай шкуркі. У 1927--1928 гадах андатру завезлі з Амерыкі ў Расію, дзе яна добра прыжылася. З 1937 года, калі было дазволена паляванне на андатру, па 1980 год у Расіі было нарыхтавана звыш 120 мільёнаў каштоўных шкурак гэтага звярка. На сёння там штогод здабываюць больш 4 мільёнаў. У Амерыцы мяса андатры лічыцца далікатэсам, яно прыемнае і смачнае. У многіх рэстаранах ЗША і Канады андатру падаюць на стол пад назвай "балотны трус". Мы ж нават уявіць не можам, што гэтага "пацука" можна есці, асабліва бянтэжыць яго доўгі пацучыны хвост.

У Беларусі андатра з'явілася ў пасляваенныя гады спачатку ў прытоках Заходняга Буга, сюды яна перакачавала з Польшчы. Потым яе знайшлі на рацэ Лясной у Белавежскай пушчы і ў іншых раёнах Брэсцкай вобласці. У 1953--1961 гадах больш дзвюх тысяч звяркоў, прывезеных з Расіі, былі выпушчаны ў азёры Чырвонае, Малькавічы, Гузьба, Асвейскае, Цно і іншыя.

Андатра -- грызун, вядзе паўвадзяны лад жыцця. Яна выдатна плавае і нырае, а пад вадой можа знаходзіцца да 12 мінут. Засяляе яна ціхія, з багатай воднай і балотнай расліннасцю азёры, балоты.

Андатра вядзе начны лад жыцця, але можна бачыць яе на кармёжцы і днём. У ядзе яна непераборлівая: маладыя сцяблiны і парасткі асакі, чароту, трыснягу, рагозу, рдзесту і багатыя крухмалам карані жоўтага і белага гарлачыка.

Жыццё андатры ў многім падобнае да жыцця бабра. У забалочаных месцах яна таксама будуе хаткі вышынёй да паўметра, у дыяметры да двух метраў. У абрывістых берагах рые норы. Уваход як у нару, так і ў хатку заўсёды пад вадой: каб туды не трапілі драпежнікі. Унутры куч-хатак звяркі наладжваюць гнёзды (адно ці некалькі), выхады з якіх вядуць у ваду. Там жа знаходзіцца і кармавая камера. Зімой у такіх хатках, занесеных снегам, цёпла, і тэмпература не апускаецца ніжэй, чым плюс 5 градусаў, звярок вядзе актыўнае жыццё на працягу ўсёй зімы.

Андатра вельмі пладавітая. Размнажацца пачынае з вясны. А за лета можа даць два-тры вывадкі, па 7--8 асобін у кожным, іншы раз да 12 і нават больш. Пяцімесячныя маладыя ўжо маюць уласную сям'ю, будуюць свае хаткі ці норы. Але жыве андатра мала, звычайна гады два, да трох гадоў дажываюць дзве--тры з сотні.

На гэты час андатра прыжылася амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Відаць, не ўсе ведаюць, што распаўсюджаны ў рэспубліцы звярок нутрыя таксама не "карэнны" жыхар Беларусі. Да нас яго завезлі з трапічнай Паўднёвай Амерыкі. Нутрыя, як і андатра, -- з сямейства грызуноў, таму першае ўражанне аб ёй -- вялікі калматы пацук з кароткімі лапкамі і доўгім голым хвастом. Вага звярка 6--8 кілаграмаў, а іншы раз і 12. Даўжыня цела да 85 сантыметраў, хваста -- да 50 сантыметраў, заднія лапкі маюць плавальныя перапонкі, як і ў бабра. Таму не выпадкова нутрыю называюць балотным бабром.

Лад жыцця андатры і нутрыі падобны. Яны аднолькава селяцца па берагах рэк, азёраў, балот, выдатна плаваюць і ныраюць, кормяцца яны фактычна аднымі і тымі ж "прадуктамі", жывуць у хатках ці норах.

Нутрыя кожнае лета прыносіць два прыплоды па 4--6, а іншы раз і да 12 асобін у кожным. Яны нараджаюцца ўжо відушчымі, з густой поўсцю і, што цікава, адразу ж умеюць плаваць. У адрозненне ад андатры і іншых млекакормячых, у якіх малочныя залозы заўсёды размешчаны на жываце, у нутрыі саскі размешчаны высока па баках цела, яна можа карміць сваіх дзіцянят, знаходзячыся ў вадзе.

У Расію першых нутрый-навасёлаў (больш сотні) прывезлі ў 1930 годзе, а праз пару гадоў яшчэ 520 звяркоў. Таму не выпадкова гэтыя звяркі разводзяцца толькі ў няволі. У Беларусь іх завезлі ў 50-х гадах, а разводзяць у зверасаўгасах на Міншчыне і Брэстчыне. Нямала ў нас аматараў, якія разводзяць гэтых звяркоў у хатніх умовах.

**Аляксандр КУРСКОЎ.**


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 46. Падпісана да друку 14. 11.1994 г.